№ 3—6. Сакавік—Ліпень 1927 г.





# БЮЛЕТЭНЬ

## ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

## SOCIÉTÉ DE LA CROIX ROUGE DE LA RUTHENIE-BLANCHE BULLETIN DE LA COMITÉ CENTRAL





МЕНСК MINSK

# ЗЬМЕСТ



## Афіцыйны аддзел



## Хроніка



## Праца на мясцох



## Па Саюзных Таварыствах



## Фізкультура

БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

Société de la Croix Rouge de la Ruthénie Blanche
Bulletin № 3—6—1927

# БЮЛЕТЭНЬ

—( № 3—6 )— и №1-2

Сакавік — Ліпень
1927 г.





ВЫДАНЬНЕ ЦК БЕЛАРУСКАГА Т-ва ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ
МЕНСК 1927

# Ідзем наперад.

Сёньня ўжо можна з пэўнасьцю сказаць, што Беларускі Чырвоны Крыж, як грамадзкая арганізацыя, стаў на цьвёрды грунт. Маючы за сабой пяць год існаваньня, але спазьніўшыся на некалькі год у разьвіцьці сваёй грамадзкай чыннасьці, параўнаўча да іншых арганізацый,—ён цяпер выбіўся на роўны шлях і цьвёрдым крокам ідзе наперад.

Найлепшым сьведчаньнем здаровага росту Таварыства і яго карыснай грамадзкай чыннасьці зьяўляюцца ўзьнікшыя ўжо і ўзьнікаючыя далей Гурткі Першай Санітарна-Мэдычнай Дапамогі.

На сёняшні дзень у шэрагах Беларускага Чырвонага Крыжу можна лічыць да 50 гэткіх гурткоў з агульным лікам слухачоў звыш 1000 чал. На працягу бліжэйшых месяцаў гэты лік мае падвоіцца, а то і патроіцца.

Як бачым—на вачох вырастае цэльная армія сяброў Чырвонага Крыжу, якія ня толькі маюць сяброўскія білеты і ўносяць членскія ўзносы,—але якія прарабляюць рэальную працу, праходзячы курс першапачатковай мэдыцыны і ператвараюцца санітарныя дружыны.

З якой мэтай?

З мэтай быць на варце стыхійнага няшчасьця, на варце чалавечай бяды—і ў тым ліку—на варце галоўнейшага няшчасьця—вайны.

Галоўны контынгент слухачоў і сяброў санітарных гурткоў—жанчыны. Вопыт, які прарабляе Беларускі Чырвоны Крыж у гэтым напрамку, зьяўляецца найлепшым спосабам організацыі працоўных жанчын Савецкай Рэспублікі. На апошняй Сэсіі Савету Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў зусім слушна было адзначана, што Гурткі Першай Дапамогі зьяўляюцца найлепшай формай выкарыстаньня грамадзкай энэргіі жаночага насельніцтва. Жанчыны ня могуць у выпадку вайны ісьці ў масе сваёй на фронт і стаяць пад аружжам побач з мужчынай. Але яны могуць зьявіцца незамянімай сілай у справе дапамогі раненаму чырвонаармейцу, у справе дапамог

бежанцам, галадаючым і наогул усім церпячым ад жахаў вайны. Для гэтай мэты яны і ствараюць сёньня спэцыяльныя гурткі, дружыны, зьвеньні.

У варунках спакою гэтыя сьвядомыя жаночыя кадры ня менш карысны. На фабрыцы, на прадпрыемстве, у жылтаварыстве, урэшце, ва ўласнай сям'і—жанчына, якая прайшла тэорэтычны і практычны курс першай санітарнай дапамогі, шмат каштоўней і патрэбней, чым звычайная абывателька, якая жыве забабонамі, баіцца віду крыві, траціцца пры няшчасных выпадках і не заўважае бруду і негігіенічнасьці ў акаляючым жыцьці.

Як паказвае вопыт Гурткоў—жаночае насельніцтва Беларусі ставіцца да іх з вялікай зацікаўленнасьцю. У іх бярэ ўдзел ня толькі моладзь, але і больш паважныя кабеты—гадоў пад 40—45. Ахвотна ідуць у гурткі ня толькі гаражанкі, але і вясковыя дзяўчаты і бабы.

Ячэйкі Беларускага Чырвонага Крыжу, дзякуючы Гурткам Першай Дапамогі, атрымалі надзвычайна добры варштат працы. Вось дзе жывая справа, са ўсіх бакоў карысная і прыемная! Агітаваць тут асабліва ня трэба,—праграма санітарнамэдычнай асьветы і ўзаемнай дапамогі ясна сама па сабе.

У Савецкай Беларусі, як у прыгранічнай дзяржаве, разьвіцьцё Гурткоў Першай Дапамогі трэба асабліва вітаць і падтрымліваць. Застаецца толькі паставіць справу так, каб гэтыя гурткі прайшлі на практыцы школу працы пры вайсковых абставінах. Мала, калі сябра гуртка будзе магчы аказваць дапамогу ў спакойных варунках,—трэба, каб ён на практыцы, у варунках бітвы, газавай атакі і інш. мог тое самае рабіць. Дзеля гэтага ўдзел Гурткоў і Дружын Першай Дапамогі ў паказальных манэўрах зьяўляецца абавязковым. Тут ён сьцісла павінен быць зьвязан з Осо-Авіяхімам.

Чарговым выразам узросту Беларускага Чырвонага Крыжу зьяўляецца ўзрост ліку яго сяброў. Цікава адзначыць, што ліквідацыя гандлёвага ўхілу ў дзейнасьці некаторых Акруговых Камітэтаў, дадатным спосабам адбілася на ліку іх сяброў і на іх грамадзкай рабоце. Паведамленьні аб гэтым (гл. ніжэй у хроніцы Мясцовых К-таў) маюць для Т-ва ў цэлым выключна важнае значэньне. Той дзень, калі дырэктыва Цэнтральнага К-ту аб забароне гандлёвых „увлечений“ будзе поўнасьцю праведзена ў жыцьцё, зьявіцца шчасьлівым днём у працы Т-ва і сьведчаньнем яго запраўднай грамадзкай сілы.

Сувязь Беларускага Чырвонага Крыжу з працоўнай моладзьдзю таксама пачынае рэальна зьдзяйсьняцца. Друкуемыя ў гэтым нумары „Бюлетэня“ лісты да комсамолу з боку Ц. К. Л. К. С. М. гавораць самі за сябе. У Цэнтральны Камітэт Бел. Чырв. Крыжу пачынаюць паступаць весткі аб тым, што моладзь зацікавілася Чырвоным Крыжам і гатова з ім супрацоўнічаць. Асабліва важнае значэньне маюць ў гэтым на-

прамку фізкультурныя мясцовыя організацыі, якія, незалежна ад ініцыятывы цэнтру, увайшлі ў дзейны і жывы контакт з мясцовымі Чырвона-Крыжнымі Камітэтамі.

Завязваецца вельмі важная сувязь і з краязнаўчымі організацыямі БССР. Пакуль што ў гэтым напрамку робяцца першыя крокі,—але мы не памылімся, калі на восень бяг. году будзем чакаць ад гэткага супрацоўніцтва паважных вынікаў.

Новымі, але ня менш важнымі і жывымі галінамі дзейнасьці Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу зьяўляецца праца сярод жылтаварыстваў і, асабліва, сярод працаўнікоў чыгунак. Што датыча жылтаварыстваў, дык у гэтым напрамку намацоўваюцца орыгінальныя шляхі і формы працы. Што-ж датыча ўцягваньня ў рады Чырвонага Крыжу рабочых і служачых беларускіх чыгунак—дык тут Беларускае Т-ва можа і павінна скарыстаць багаты вопыт і практыку Украінскага Чырвонага Крыжу. Да сяго часу Беларускі Чырвоны Крыж ня вёў абсалютна ніякай працы сярод чыгуначнікаў—гэта галіна неяк была не зачэплена. Між тым, прыймаючы пад увагу выключную важнасьць чыгунак, значны лік і высокую сьвядомасьць чыгуначнага пралетарыяту—прад Т-вам ляжаць у гэтым напрамку шырокія і дзейныя пэрспэктывы.

Сьведчаньнем узросту, організаванасьці і пашырэньня дзейнасьці Беларускага Чырвонага Крыжу зьяўляецца ўрэшце зацікаўленасьць з боку мясцовых камітэтаў нашым „Бюлетэнем“. Кожны дзень дае яму новых карэспадэнтаў і новых чытачоў. „Бюлетэнь“ даходзіць да саміх глухіх куткоў Савецкай Беларусі і робіцца сапраўдным зьвяном паміж цэнтрам і неакрэсьлена вялікай грамадой на мясцох.

**А. Цьвікевіч.**

---

## Чыгуначнікі Беларусі—у Чырвоны Крыж!

Прафэсыянальны Саюз Чыгуначнікаў зьяўляецца выключным па значэньню атрадам арганізованае арміі пролетарыяту.

Чыгункі—гэта артэрыі, па якім праходзіць кроў таварнага і асабовага звароту дзяржавы.

Праз чыгуначныя пункты прасоўваюцца калёны перасяленцаў, шукаючых лепшых месц для сваёй працы і сядзібы.

Пасьля кожнага няшчасьця, пасьля пажару, паводзьдзя і іншых стыхійных здарэньняў—пацярпеўшыя імкнуцца, страціўшы ўсё на месцы, перасунуцца туды, дзе ім здаецца, яны лягчэй знойдуць магчымасьць паправіцца пасьля перанесенага.

На нашых вачох, па чыгункам у час голаду людзі шукалі ратунку ад сьмерці,—шмат хто з іх і знайшоў на чыгуначных рэйках гэтую самую сьмерць.

Натоўпы бяспрытульных дзяцей яшчэ і зараз праходзяць праз чыгункі, перасоўваючыся падобна птушкам з аднаго ў другое месца.

Асаблівае вагі і значэньня набываюць чыгункі падчас вайны.

Зьяўляючыся галоўнай прыладай перасоўваньня арміі і яе харчаваньня, чыгункі зьяўляюцца аднэй з галоўных мэтаў для ворага.

Перарыў чыгуначных зносін заўсёды выгадны для ворага і кожны ваюючы імкнецца зьнішчыць, у першую чаргу чыгунку.

Вось чаму маса працоўных чыгуначнікаў зьяўляецца такім атрадам, які павінен быць найбольш сьвядомым, найбольш падрыхтаваным, і забясьпечаным усім неабходным на выпадак грамадзкіх няшчасьцяў.

Жыцьцё і праца чыгуначніка таксама праходзіць трохі ў іншых умовах, чым працоўных другіх спэцыяльнасьцяй.

У той час, калі сям'я фабрычнага рабочага часта мае няяснае прадстаўленьне аб варштаце, на якім дабываецца для яе штодзённы хлеб, сям'я чыгуначніка,—на будцы лінейнага стоража, на маленькай станцыі і г. д.,—непасрэдна зьвязана з чыгуначным жыцьцём. Сям'я чыгуначніка падзяляе з ім самы працэс працы.

Пры гэтых варунках асаблівае значэньне набываюць тыя грамадзкія організацыі, якія могуць разьвівацца ва ўмовах лінейнага жыцьця.

Сярод грамадзкіх організацый, якія маюць вельмі высокія мэты і даюць магчымасьць аб'яднацца самым шырокім гушчам чыгуначнікаў—адно з першых месц займае *Беларускае Таварыства Чырвонага Крыжу.*

Мэты Таварыства надта прыгожыя: дапамога бліжняму пад час няшчасьця, стварэньне чыстага і здаровага быту ў мірны час і ўзаемная дапамога ў час вайны.

Членскія ўзносы даступны нават для тых працоўных, якія аплачваюцца па самых нізкіх разьдзелах тарыфнае сеткі.

Праца ў Таварыстве Чырвонага Крыжу можа даць выхад энэргіі чыгуначніка і запоўніць яго разумны адпачынак.

Для прафэсыйнага работніка актыўная праца ў Т-ве дасьць магчымасьць бліжэй падыйсьці да масаў і ўплынуць на бытавыя ўмовы іх жыцьця.

Для настаўніка праца ў Т-ве дасьць яшчэ адну магчымасьць накіраваць дзіцячую энэргію і актыўнасьць на грамадзкі шлях.

Сярод чыгуначнікаў, якія маюць ужо вялікія грамадзкія навыкі, працэс уцягваньня ў шэрагі Т-ва павінен прайсьці надта лёгка.

Патрэбна толькі, каб праявілася адпаведная ініцыятыва, патрэбна, каб профэсыйныя організацыі чыгуначнікаў уключылі ў плян працы і працу па вярбоўцы членаў Т-ва Чырвонага Крыжу.

Дарпрафсож і Ўчкпрафсожы і Мясцкомы—за вамі слова!

Прафэсыйныя работнікі, настаўнікі чыгуначных школ, мэдычны пэрсанал, інжынэры і тэхнікі—усе да шырокае тлумачальнае кампаніі аб мэтах і працы Т-ва!

Чыгуначнікі ўсіх служб, усіх катэгорый—у шэрагі Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу!

Уступайце самі, уцягвайце сваіх таварышоў і сваі сем'і. Гуртуйцеся каля мясцкомаў, утварайце мясцовыя ячэйкі, гуртуйце ячэйкі каля ўчпрафсожаў, утварайце вучастковыя камітэты.

Шчыльней шэрагі, армія чыгуначнікаў, на гэты раз вы спазьніліся,—наганяйце працоўных другіх саюзаў!

**Д-р П. Трэмповіч.**

---

# Мясцовыя організацыі Чырвонага Крыжу і мясцовыя таварыствы краязнаўства.

У апошнім нумары „Бюлетэню“ (№ 1—2 за 1927 г.) тав. М. Барсукоў падняў вельмі цікавае пытаньне аб сувязі Чырвонага Крыжу з краязнаўствам. Думка зусім слушная. Мясцовыя організацыі Чырвонага Крыжу: акруговыя і раённыя камітэты, а таксама вясковыя ячэйкі зьяўляюцца культурна-грамадзкімі аб'яднаньнямі для аховы здароўя. У мірныя часы асабліва выразна перад імі выступае гэта задача. Зразумела, што ўрадавыя інстытуцыі—аддзелы Аховы Здароўя патрабуюць для дасягненьня свае мэты ў справе аховы здароўя дапамогі шырокіх кол рабочых і сялян. Вось афармленьне гэтай дапамогі і выяўляецца ў організацыях Чырвонага Крыжу. Запраўды,—мясцовыя організацыі Чырвонага Крыжу, як і іншыя мясцовыя грамадзкія організацыі, маюць перад сабою шэраг краязнаўчых задач. Галіна аховы здароўя настолькі вялікая, што пераказаць усе гэтыя задачы было-б даволі цяжка. Таму можна абмяжавацца толькі самымі галоўнымі, як напр., дасьледваньнем лячэбных крыніц і гразяў, санітарнага стану мясцовых вод, мясцовых хвароб, патрэб пашырэньня мясцовых лячэбных устаноў і г. д.

Але гэтыя задачы разам з іншымі стаяць і перад мясцовымі краязнаўчымі організацыямі: акруговымі і раённымі таварыствамі краязнаўства і сельскімі гурткамі краязнаўства. Апошнія дасьледуюць і вывучаюць мясцовы край усебакова, а значыць і пытаньні паказаныя вышэй.

Тутака наглядаецца як роўналежнасьць задач, так у пэўнай меры і розьніца іх. Для мясцовых організацый Чырвонага Крыжу дасьледваньне санітарнага стану вёскі ці падобнае яму зьяўляецца галоўнаю задачаю, а для мясцовых краязнаўчых організацый—гэта толькі частка агульнага вывучэньня краю.

Але, разам з тым, зразумела, ёсьць і шмат агульнага для абедзьвюх організацый. Адсюль ясны вывад аб неабходнасьці сувязі мясцовых організацый Чырвонага Крыжу і мясцовых краязнаўчых організацый.

Сувязь гэта павінна выявіцца ва ўзаемным прадстаўніцтве ў кіруючых органах організацый, а таксама ў членстве краязнаўцаў у організацыях Чырвонага Крыжу і наадварот.

Мясцовыя краязнаўчыя організацыі ўжо здолелі ўвабраць у сябе лепшае з беларускай савецкай грамадзкасьці і для організацый Чырвонага Крыжу былі-б вельмі карысным, каб у іх працы прынялі чынны ўдзел гэткія актыўныя краязнаўцы, як —*Крукоўскі* (Мазыр), *Самцэвіч* (Барысаў), *Мікіцінскі* (Слуцк), *Глацёнак* (Асьвея, Полацкі Акр.), *Шамко* (Бабруйск) і інш.

З другога боку ў мясцовых краязнаўчых організацыях яшчэ ня так шмат падрыхтаваных асоб для санітарнага і соцыяльна-мэдычнага вывучэньня вёскі. А гэта значыць, што для краязнаўчых організацый вельмі важны ўдзел у працы мясцовых дактароў, вэтэрынараў і інш. працаўнікоў Чырвонага Крыжу.

Усё гэта яшчэ больш падкрэсьлівае неабходнасьць супрацоўніцтва мясцовых організацый Чырвонага Крыжу і краязнаўства як такіх. Калі ў краязнаўчых організацыях больш сіл, дык у організацыях Чырвонага Крыжу—больш сродкаў. І, зразумела, будзе рацыянальна, калі працу, напісаную краязнаўчай організацыяй, выдасьць організацыя Чырвонага Крыжу. Гэта раней часта рабілася. Даволі ўспомніць хоць-бы паштоўкі, монографіі гарадоў і інш, што выдаваліся Чырвоным Крыжам у даваенныя часы. Зараз Беларускі Чырвоны Крыж ужо стаў на гэты шлях.

Трэба паклапаціцца, каб супрацоўніцтва абедзьвюх сіл утварылася як мага хутчэй.

**М. Касьпяровіч.**

*Сакратар Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце.*

---



# Цікавыя параўнаньні.

**(З дзейнасьці замежных чырвоных крыжоў).**

Чырвоныя Крыжы буржуазных дзяржаў адрозьніваюцца ад Савецкіх Чырвоных Крыжоў і Чырвоных Поўмесяцаў сваім рэзка выражаным філёнтрапічным характарам. У лепшым выпадку яны складаюцца з філёнтропаў, якія шчыра жадаюць зьдзейсьніць ідэі Чырвонага Крыжу, але якія пры ўсім жаданьні ня могуць гэтага ажыцьцявіць.

Самым слабым момантам іх працы зьяўляецца тое, што рэкрутуемыя з прадстаўнікоў заможных клясаў, дзеячы буржуазных Чырвоных Крыжоў ня могуць блізка падыйсьці да патрэб шырокіх мас насельніцтва, якім неабходна дапамога і дзеля гэтага іх мэтады занадта тэорэтычны і мала зразумелы тым, каму яны павінны служыць.

Праўда, трэба адзначыць, што ў апошнія гады рад буржуазных Чырвоных Крыжоў робіць усё ад іх залежнае, каб падыйсьці бліжэй да масы і абаперціся на яе ў галіне сан. асьветы і ў барацьбе з сацыяльнымі хваробамі. Імкнуцца яны гэта зрабіць праз падрастаючую моладзь.

Аднак, гэтыя спробы, у шмат якіх дзяржавах, асабліва ў Нямеччыне, спатыкаюць актыўны адпор з боку клясы працоўных, якая ня верыць буржуазным філёнтропам. Гэты адпор выяўляецца ў утварэньні пралетарскіх організацый „самарыцян“, якія ставяць сваёй мэтай уласнымі сіламі даць рабочым масам сан. асьвету, санітарную і мэдычную дапамогу ў часе дэмонстрацый і пры няшчасных здарэньнях на фабрыках, пры спортсмэнскіх олімпіядах і г. д.

Сярод нашых нацыянальных Чырвоных Крыжоў, якія існуюць усяго некалькі год і надта жыва адчуваюць сваю слабасьць у параўнаньні з тымі вялікімі заданьнямі, якія стаяць перад імі, часта мае месца неадказываючае сапраўднасьці пераконаньне аб іх слабасьці, — у параўнаньні з „багатымі“ замежнымі Чырвонымі Крыжамі, якія працуюць ужо дзесяткі год і не перажылі ў апошнія годы грамадзянскай вайны, голаду і разбурэньняў.

Дзеля гэтага вельмі карысна бліжэй прыгледзіцца, як да мэтадаў дзейнасьці замежных Чырвоных Крыжоў, так і да маштабу іх працы.

Вось, прыкладам, параўнаўчая табліца бюджэтаў Т-ваў Чырвонага Крыжу розных краін:

Табл. 1.

Бюджэты паасобных Чырвоных Крыжоў і Чырв. Поўмесяцаў за 1926 г.—у залатых франках.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Амэрыканскі | 20.000.000 | Аззрбайджанскі | 400.000 | зал. фр. |
| Японскі | 18.000.000 | **Беларускі** | 375.000 | „ |
| Украінскі | 10.000.000 | Узьбекістанскі | 345.000 | „ |
| РСФСР | 8.000.000 | Швайцарскі | 270.000 | „ |
| Італьянскі | 4.500.000 | Нарвэскі | 200.000 | „ |
| Француські | 4.000.000 | Бэльгійскі | 200.000 | „ |
| Канадзкі | 3.600.000 | Югаслаўскі | 170.000 | „ |
| Чэхаславацкі | 3.000.000 | Нідэрландзкі | 120.000 | „ |
| Латвійскій | 1.200.000 | Колумбійскі | 100.000 | „ |
| Грузінскі | 880.000 | Аўстрыйскі | 90.000 | „ |
| Дацкі | 600.000 | Туркмэністанскі | 75.000 | „ |
| Польскі | 600.000 | Літоўскі | 75.000 | „ |
| Вэнгэрскі | 600.000 | Альбанскі | 70.000 | „ |
| Грэцкі | 360.000 | Аўстралійскі | 50.000 | „ |
| Турэцкі | 500.000 | Эстонскі | 64.000 | „ |
| Парагвайскі | 500.000 | Новазеландзкі | 32.000 | „ |

Гэтая табліца, будзе пэўна вялікаю неспадзякаю для многіх нашых сапэсымістых, бо яна відавочна даводзіць, што Чырвоныя Крыжы буйных Савецкіх Рэспублік (Украіны і РСФСР) па свайму агульнаму бюджэту стаяць уровень з Чырвонымі Крыжамі буйнейшых эўропэйскіх дзяржаў і ўступаюць толькі Злучаным Штатам і Японіі. Грузінскі Чырвоны Крыж у 6 з лішнім разоў выпераджае Польшчу, у якой колькасьць насельніцтва значна большая, Чырвоны Крыж Беларусі выпераджае Швайцарыю, Бэльгію, Норвэгію, Галяндыю. якія хоць і роўныя ёй па колькасьці насельніцтва, але бязумоўна больш багатыя.

Калі-ж мы возьмем разам бюджэты ўсіх Савецкіх Чырвоных Крыжоў і Чырв. Поўмесяцаў, дык выперадзім нават казачныя па свайму багацьцю Злучаныя штаты П. Амэрыкі.

З гэтага, зразумела, нельга рабіць вывад, што нам належыць „почыць на лаврах". Калі бюджэты Чырвоных Крыжоў нашых Рэспублік параўнаць з агульным лікам іх насельніцтва, дык малюнак атрымаецца ўжо не такі бліскучы, хоць і тут, як відна з табліцы № II, нашы арганізацыі, калі і не стаяць на першым пляне, то ўсё-ж займаюць далёка не апошняе месца сярод Чырвоных Крыжоў іншых краін.

Табл. 2.

Бюджэт Чырвоных Крыжоў, які прыходзіцца на аднаго жыхара:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Латвія | 75 | сантымаў | зол. | Узьбекістан | 7 | сантымаў | зал. |
| Парагвай | 50 | „ | „ | Эстонія | 7 | „ | „ |
| Японія | 34 | „ | „ | Альбанія | 7 | „ | „ |
| Украіна | 30 | „ | „ | Італія | 6,6 | „ | „ |
| Чэхія | 26 | „ | „ | Швайцарыя | 6 | „ | „ |
| Эквадор | 25 | „ | „ | **Беларусь** | 4 | „ | „ |
| Грузія | 22 | „ | „ | Турцыя | 3,3 | „ | „ |
| Злуч. Штаты | 21 | „ | „ | Бэльгія | 3 | „ | „ |
| Азэрбайджан | 20 | „ | „ | Літва | 3 | „ | „ |
| Канада | 20 | „ | „ | Н. Зэляндыя | 2,5 | „ | „ |
| Данія | 19 | „ | „ | Польшча | 2,2 | „ | „ |
| Францыя | 10 | „ | „ | Нідэрландыя | 2 | „ | „ |
| РСФСР | 8,5 | „ | „ | Калумбія | 2 | „ | „ |
| Нарвэгія | 8, | „ | „ | Аўстрыя | 1,5 | „ | „ |
| Грэцыя | 8, | „ | „ | Югаславія | 1,5 | „ | „ |
| Туркменістан | 7,5 | „ | „ | Аўстралія | 1 | „ | „ |
| Вэнгрыя | 7,5 | „ | „ | | | | |

Па ліку сяброў Чырвонага Крыжу, нашы таварыствы, хоць яны і пачалі работу ў галіне масавай вярбоўкі сяброў нядаўна, займаюць таксама даволі пачэснае месца сярод Чырвоных Крыжоў іншых краін.

Трэцяя табліца дае нам наступны малюнак:

Табл. 3.

Лік сяброў Чырв. Крыжоў і Чырв. Поўмесяцаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Амэрыканскі (Зл. Ш.) | 3.012.055 | Калумбійскі | 20.000 |
| Японскі | 2.464.813 | **Беларускі** | 15.600 |
| Нямецкі | 1.084.649 | Партугальскі | 15.400 |
| Францускі | 217.000 | Румынскі | 15.360 |
| Чэхаславацкі | 237.000 | Нідэрляндзкі | 15.070 |
| Італьянскі | 220.000 | Вялікабрытанскі | 15.000 |
| Украінскі | 195.000 | Аргэнтынскі | 15.000 |
| РСФСР | 180.000 | Бразілійскі | 10.000 |
| Іспанскі | 100.000 | Паўднёва Афрыканскі | 9.000 |
| Польскі | 100.000 | Баўгарскі | 8.390 |
| Нарвэскі | 80.000 | Узьбекістанскі | 6.200 |
| Бэльгійскі | 80.000 | Армянскі | 6.000 |
| Турэцкі | 80.000 | Індыйскі | 4.200 |
| Швэдзкі | 75.000 | Данцыгскі | 3.500 |
| Швайцарскі | 72.000 | Туркмэністанскі | 2.800 |
| Кітайскі | 57.000 | Латвійскі | 2.000 |
| Канадзкі | 56.000 | Ісландзкі | 1.400 |
| Грузінскі | 50.000 | Парагвайскі | 960 |
| Сіамскі | 48.000 | Грэцкі | 825 |
| Дацкі | 40.000 | Эквадорскі | 770 |
| Вэнгерскі | 38.000 | Эстонскі | 718 |
| Азэрбайджанскі | 30.000 | Панамскі | 500 |
| Чылійскі | 30.000 | Літоўскі | 252 |
| Аўстрыйскі | 22.000 | Поста-Рыскі | 216 |
| Югаслаўскі | 22.000 | Кубскі (Куба) | 50 |

Украінскі і Расійскі Чырвоныя Крыжы і тут фігуруюць у ліку першага дзесятку, а Беларускі стаіць наперадзе Партугальскага, Румынскага, Вялікабрытанскага і г. д. Трэба спадзявацца, што ў 1927-28 г. Савецкія Крыжы і Паўмесяцы займуць яшчэ болей адпаведнае месца.

Адносьнік ліку сяброў Чырвонага Крыжу да насельнасьці паасобных рэспублік высоўвае наперад Грузінскі Чырвоны Крыж і Азэрбайджанскі Поўмесяц, як бачым з чацьвёртае табліцы.

Табл. 4.

Адноснік ліку сяброў Чырв. Крыжу для насельнасьці паасобных дзяржаў.

(Адзін сябра Чырв. Крыжу на наступны лік жыхароў).

| | | | |
|---|---|---|---|
| Японія | 23 ч. | Канада | 160 ч. |
| Нарвэгія | 31 „ | Італія | 170 „ |
| П.-А. Злуч. Штаты | 40 „ | Сіам | 200 „ |
| Нямеччына | 50 „ | Гішпанія | 210 „ |
| Швайцарыя | 54 „ | Вэнгрыя | 210 „ |
| Чэхія | 57 „ | **Беларусь** | 265 „ |
| Грузія | 60 „ | Польшча | 270 „ |
| Ісляндыя | 75 „ | Парагвай | 300 „ |
| Швэцыя | 50 „ | Альбанія | 314 „ |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Азэрбайдж. | 80 „ | Аўстрыя | 320 „ |
| Данія | 84 „ | Баўгарыя | 410 „ |
| Бэльгія | 95 „ | Партугалія | 447 „ |
| Аргэнтына | 100 „ | Эквадор | 450 „ |
| Данцыг | 110 „ | Нідэрлянды | 500 „ |
| Чылі | 122 „ | Туркмэністан | 500 „ |
| Украіна | 140 „ | РСФСР | 540 „ |
| Францыя | 145 „ | Юга-Славія | 600 „ |
| Арменія | 150 „ | Паўдн. Афрыка | 750 „ |

| | |
|---|---|
| Узбекістан | 800 ч. |
| Панама | 850 „ |
| Латвія | 900 „ |
| Грэцыя | 916 „ |
| Румынія | 1160 „ |
| Эстонія | 1570 „ |
| Коста Рыка | 2308 „ |
| Бразілія | 2600 „ |
| Вялікабрытанія | 3000 „ |
| Кітай | 5500 „ |
| Літва | 10000 „ |
| Балівія | 14450 „ |
| Куба | 52864 „ |
| Англ. Індыя | 57982 „ |

Апошняя табліца на першы погляд здаецца не асабліва спрыяючай для нашых Чырвоных Крыжоў і Чырв. Поўмесяцаў. Але яна зьявіцца зусім у іншым сьвятле, калі мы ўспомнім, што работа ў галіне вярбоўкі сяброў нашымі таварыствамі пачалася па заканчэньні грамадзкай вайны і пэрыоду голаду, г. з. не раней 1923 г. Што павялічэньне тут ідзе шагамі асілкаў, гэта мы бачым з таго, што Беларускі Чырвоны Крыж за апошні год патроіў лік сваіх сяброў, РСФСР—падвоіў і г. д. Туркменістанскі-ж і Узьбекістанскі Чырвоныя Поўмесяцы наогул існуюць усяго каля году.

Гэтыя даныя даюць нам поўнае права думаць, што рост сяброў нашых таварыстваў пойдзе наперад тым-жа тэмпам, калі ня больш шпаркім, бо зацікаўленасьць шырокіх рабочых і сялянскіх мас да сваіх таварыстваў Чырвонага Крыжу моцна расьце ў меру таго, як яны пачынаюць разумець значэньне гэтых грамадзкіх організацый.

На тым, што ня можна раўняць работу на карысьць шырокіх працоўных мас нашых актыўных сяброў з рабочае і сялянскае гушчы з пасыўнымі займаючыміся філёнтропіяй сябрамі буржуазных Чырвоных Крыжоў,—я болей падрабязна затрымаюся ў наступным артыкуле. А пакуль закрану яшчэ пытаньне аб Чырвоных Крыжах Моладзі, якія за апошнія годы моцна разьвіліся ў шэрагу замежных дзяржаў.

Асабліва вялікі лік сяброў Чырвоных Крыжоў Моладзі ў наступных краінах:

| | |
|---|---|
| Злуч. Шт. П. А. | 5.549.428 ч. |
| Італія | 1.500.000 „ |
| Японія | 865.924 „ |
| Чэхія | 335.641 „ |
| Аўстрыя | 140.000 „ |
| Югаславія | 161.146 „ |
| Грэцыя | 150.000 „ |
| Польшча | 114.000 „ |
| Вэнгрыя | 114.000 „ |
| Канада | 107.864 „ |

Няма чаго казаць, што адначасна з пашырэньнем веды гігіены і санітарыі сярод гэтай чырвона-крыжнай моладзі ідзе ня рэдка пропаганда

клерыкальна-манархічных ідэй. Але гэта—рэч асобная. Зараз для нас цікава другое, а ласьне—магчымасьць і пажаданасьць утварэньня гэтак-жа вялікіх па ліку сяброў арганізацый моладзі ў нашых савецкіх умовах.

Работа ў гэтай галіне ў нас пашла крыху іншым шляхам, г. зн. па лініі дапамогі Т-ваў Чырвоных Крыжоў піанэрам. Тут апрацоўваюцца і вырабляюцца своеадменныя формы арганізацыйнае сувязі,—піанэрскія арганізацыі, а яшчэ больш Комсамол,—усё больш зьвязваюцца з Чырвоным Крыжам і атрымліваюць ад яго сан-асьвету.

Бліжэйшы год пакажа, ва што выльецца гэты момант працы нашых Чырвоных Крыжоў і Поўмесяцаў.

(Працяг будзе).

Бэрн.
Швайцарыя.

**С. Багоцкі.**

# На вёску!

Разгорнутая Чырвона-Крыжная кампанія па арганізацыі *Гурткоў Першай Дапамогі* дала ўжо свае карысныя вынікі. У шмат якіх акругах Беларусі такія гурткі ўжо з'арганізаваны і ў іх інтэнсыўна вядуцца заняткі. Дзеля зразумелых прычын названыя гурткі да гэтага часу ўтвараліся па гарадох, дзе ёсьць задавальняючы кадр кваліфікаваных лектароў і лекавых устаноў, дзе лягчэй праводзіць практычныя і тэорэтычныя заняткі.

Менскі Акруговы Камітэт Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу паставіў на мэце перанесьці гэтую гуртковую працу і ў раёны. Вынікамі гэтае цікавае спробы варта падзяліцца на старонках нашага Бюлетэню.

Райкамітэту Заслаўскага раёну і ячэйцы Чырвонага Крыжу ў сяле Пярэжыры, Сьмілавіцкага раёну, было запрапанована з'арганізаваць у сябе па адным Гуртку Першае Дапамогі. У раённым цэнтры Заслаўля стварыць гэтую арганізацыю было ня вельмі цяжка, бо там ёсьць доктар і больніца. Дапамога Райкамітэту з боку Акружкому абмежавалася выдачаю матар'яльных сродкаў.

У сяле Пярэжыры стала ёсьць усяго адзін Лекпом і часова знаходзіўся зубны доктар з Першым Зубным Габінэтам—перасоўкаю, які фактычна адзін правёў курс заняткаў з гуртком. У даным выпадку Акруговы Камітэт акрамя матар'яльнае дапамогі меў яшчэ некаторае арганізацыйнае кіраўніцтва.

Па заканчэньні вярбоўкі ў кружок слухачоў, я выехаў на яго адчыненьне.

У ледзь асьветлены лямпаю пакой хаты-чытальні сабралася вясковая моладзь, якая была зацікаўлена зачонкаю сельскай ячэйкі Чырвонага Крыжу.

Па кароткіх прамовах аб мэтах і заданьнях організуемага гуртка, мы, організатары апошняга, разышліся, нельга сказаць, каб з пэўнасьцю ў посьпех пачатае справы.

Але будучае паказала, што мы вельмі памыліліся. Вясковая моладзь выявіла вялікую зацікаўленасьць да гуртку!

аднеслася з здавальняючаю ўвагаю да неабходных заняткаў. Праз два месяцы ад дню арганізацыі гуртка яны былі закончаны.

16-га красавіка г.г. я паўторна выехаў у сяло, каб прыняць удзел у спраўджаньні ведаў таварышоў, якія займаліся ў гуртку.

З вялікаю цікавасьцю я чакаў процэдуры экзаміну.

Камісія, у якую акрамя мэдпэрсаналю ўвайшлі Старшыня Сельячэйкі Чырвонага Крыжу і Сельсавету, распачала экзамін позна ўвечар. Першыя, якіх экзамінавалі, адказвалі з відавочным непакоем, гаворачы „атрэрыя“ замест „артэрыя“, частавата зьбіваліся, але з ведаю пройдзенага курсу. Наступныя адказвалі больш пэўна і даволі вычэрпана.

Догляд за хворымі, першая дапамога пры няшчасных здарэньнях, налажэньне розных павязак, штучнае дыханьне, як весьці барацьбу з мікробамі—усё гэта моладзь расказвала і дэмонстравала перад камісіяй з цьвёрдым разуменьнем справы. З 17-цёх, якія паддаліся спраўджаньню, большая палова адказвала добра, меншая зусім здавальняюча, кепска ведаючых—ня было зусім.

Па заканчэньні спраўджаньня скончыўшым гурток была дадзена дарам папулярная літаратура па санітарыі з іменнымі надпісамі за подпісам усіх сяброў камісіі.

Досьлед Акружкому ўдаўся—ён варты далейшага разьвіцьця і паглыбленьня. Каштоўнасьць яго значна павялічваецца тым, што выкананая праца зьяўляецца ўдарам па знахарству, дапамагае агульнаму культурнаму разьвіцьцю вёскі, практычна прывучае яе да ўзаемнае дапамогі пры няшчасных здарэньнях і навальных выпадках.

Ёсьць яшчэ адзін важны момант. Арганізуючы гэткія гурткі ячэйка Чырвонага Крыжу здабывае на мясцох запраўдны аўтарытэт,—папулярызацыя ідэй Чырвонага Крыжу становіцца шырэй, а галоўнае,—энэргія актыўных сяброў Т-ва мае простае і карыснае прыстасаваньне.

Участковы лекпом, раёны доктар і ўвесь нізавы актыў Чырвонага Крыжу павінны пазнаёміцца з досьледам ячэйкі сяла Пярэжыра і ў бліжэйшы час паўтарыць яго ў сябе. Патрэбная дапамога з боку Акружных Камітэтаў у гэтай працы будзе заўсёды забясьпечана.

**Н. Левінтаў.**

# Дружыны першай дапамогі на першамайскай дэманстрацыі.

Пагода дрэнная, сонца схавалася за хмараю. Невядомамо‘ хутка пойдзе дождж, і першамайская дэманстрацыя будзе сарвана. Аднак, на зборным пункце—ва двары дому Цэнтр. Камітэту—цэльная армія організаваных жанчын з чырвонакрыжнымі знакамі.

У памяшканьні ЦК рыхтуецца сьцяг і флагі, падбіраюцца сан-торбачкі, процівагазы і інш. Тым часам сан-гурткі на чале з сваімі старшынямі ўсё надыходзяць і надыходзяць.

Фатаграфавацца!.. Усе бягуць на двор. разам фатаграфавацца не магчыма,—шмат людзей, трэба здымацца па дружынам.




А 10 гадзіне раздаецца каманда—строіцца па зьвеньням. Выстраіліся ў стромкія шэрагі і рушылі на Пляц Волі.

Прадстаўнік Осо-Авіяхім просіць, каб ім далі частку чырвонакрыжных сясьцёр для організацыі санітарнай службы пры іх вайсковых гуртках. Накіравалі да іх чалавек 50 з флагам.

Калёна Першай Дапамогі заняла сваё месца на Пляцу Волі ў галаве 6-й калёны дэманстрацыі і рушыла да Пля-

цу Парыскай Камуны на парад. Па дарозе астаноўка—затор. Чакаем. Бачым у суседняй калёне замяшаньне, зьбіраюцца дэманстранты вакол свайго сьцягу. Падыходзім бліжэй,—бачым знамяносец неяк парэзаў сабе руку. А нашы першадапаможнікі рады, ім выпадкова здарылася выкарыстаць сваі веды. Выцягваюць з сваіх сумак бінты, ёд, вату і інш., затрымліваюць кроў. Кладуць перавязку. „Паранены" павесялеў і бярэ зноў ў сваі рукі знамя. Па адрасу першадапаможнікаў раздаюцца ўхвалёныя ўзгалосы.

Ідзем далей. Вось і Пляц Парыскай Камуны,—а на ім трыбуна, з якой прымаюць парад і вітаюць дэманстрантаў.

Праходзім стромка, цэрэмоніяльным маршам, выцягнуўшыся ў паважную дэманстрацыю. Прыймаючыя парад т. т. Чарвякоў, Адамовіч і інш. сябры ўраду вітаюць: „Хай жывуць Чырвоныя Сёстры". „Хай жыве ваенізацыя жанчын" і г. д. Дружнае „ура" ляціць у адказ на прывітаньне. Прайшлі Пляц. Шэрагам вуліц выйшлі на Савецкую вул.




Дождж шкадаваў нас да гэтае пары і даў нам магчымасьць у дзень сусьветнага сьвята працоўных, разам з баявымі радамі Менскага пралетарыяту дэманстраваць сілу і падрыхтоўку жаночага насельніцтва да барацьбы з непрыяцельскім нападам і стыхійнымі няшчасьцямі.

Але ён усё-ж такі брызнуў і шмат каго добра прамачыў, пакуль варочаліся да хаты. Санітарным аўтамабілем Чырвонага Крыжу прышлося развазіць дадому найбольш далёка жывушчых, дзе пехатою ісьці было немагчыма.

Дэманстрацыя сабрала звыш 250 чал. удзельнікаў. Гэта ёсьць сьведчаньнем значнага дасягненьня ў галіне падрыхтоўкі жаночага насельніцтва. Першае масавае выступленьне Гурткоў Першай Дапамогі трэба дэтальна аналізаваць і зрабіць вывады для далейшага іх удасканаленьня.

За пэрыод летняга зацішша, калі ў зьвязку з адпускной кампаніяй немагчыма правадзіць сыстэматычную працу па арганізацыі новых гурткоў, неабходна правадзіць агульныя заняткі з скончыўшымі гурткі, шляхам організацыі агульных збораў, манэўравых заняткаў, удзельнічаньня ў агульных вайсковых манэўрах у якасьці санітарнай службы і інш.

**І. Фрыдман.**

---



# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Усім Акруговым Камітэтам Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу.

З прычыны таго, што амаль усе грамадзкія організацыі ствараюцца па фабрычна-завадзкому прынцыпу і што на прадпрыемствах ёсьць вялікі лік усялякіх грамадзкіх ячэек,—праца Чырвонага Крыжу там цяжка праводзіцца. У сучасны момант выяўляецца неабходнасьць, побач з працягам працы на прадпрыемствах, зьвярнуць асаблівую ўвагу на іншыя віды аб'яднаньня працоўных, як-та: на жылтаварыствы, клюбы, на раёны і кварталы гораду, Нардамы і інш., з тым, каб пры гэтых аб'яднаньнях разгарнуць масавую працу па Чырвонаму Крыжу.

Неабходна пры гэтых аб'яднаньнях утварыць ячэйкі Т-ва, Гурткі Першай Дапамогі і інш., уцягваючы да працы жонак рабочых, служачых і моладзь. Працу неабходна весьці з такім разрахункам, каб, не парываючы сувязі з прадпрыемствам і замацоўваючы існуючыя там ячэйкі Т-ва, падгатаваць перанясеньне грунтоўнай грамадзкай працы Т-ва ў гарадох з прадпрыемстваў у жылтаварыствы, клюбы, кварталы і інш.

ЦК Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу прапануе Вам на бліжэйшым пасяджэньні Акруговага Камітэту абмеркаваць гэтае пытаньне і выпрацаваць плян організацыі грамадзкай працы Т-ва ў гэтых аб'яднаньнях.

Старшыня ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу

**М. Барсукоў.**

Адказны Сакратар ЦК **І. Фрыдман.**



## Усім Акруговым Камітэтам Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу.

Дадаючы да гэтага адбітак абежніка ЦК УЛКСМ і ЦК ЛКСМБ аб удзеле моладзі ў працы Т-ва Чырвонага Крыжу, зварочваю Вашу ўвагу на неабходнасьць прыцягваньня іх да дзейнасьці вайскова-санітарнага характару і да прыняцьця ўдзелу ў утвараемых Гурткох Першай Дапамогі, Сан. Камандах і інш.

Дадзеныя па комсамольскай лініі паказаньні безварункова ўзьнімуць зацікаўленасьць моладзі да працы Чырвонага Крыжу. Дзеля гэтага неабходна, каб Акруговыя Камітэты прынялі тэрміновыя захады да замацаваньня гэтай зацікаўленасьці і да прыцягненьня моладзі да актыўнай працы, каб узьняты настрой і запал не засталіся без адказу.

Старшыня ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу
**М. Барсукоў.**

**Зацьверджана Сакратарыятам**
**ЦК ЛКСМ ад 29 1, прат. № 37.**

## Усім Губкомам, Абкомам, Крайкомам, УЛКСМ і ЦК ЛКСМ Нацрэспублік аб працы ЛКСМ у таварыстве Чырвонага Крыжу і Чырвонага Поўмесяцу.

Побач з агульнымі мерамі па падгатоўцы краіны да абароны, узьнікае шэраг задач і ў галіне мэдычна-санітарнай. Галоўнейшая з іх складаецца ў дасягненьні таго, каб кожны працоўны ня толькі ведаў і разумеў пагрозу небясьпечнасьці ў часе вайны, але і навучыўся даваць першую дапамогу і з сьвядомасьцю справы змог прыняць удзел у правядзеньні мер абароны. Ня менш важнае значэньне мае падрыхтоўка малодшага мэдычнага пэрсаналу для лячэбных устаноў у часе вайны. Патрэбна быць загадзя прыгатаванымі і даць справе дапамогі хворым і раненым змагаром Чырвонай арміі тысячы падгатаваных малодшых мэдычных работнікаў. Гэта асабліва адносіцца да жаночнай часткі нашага Саюзу, таму што жанчыны павінны заняць месцы санітарак у лячэбных установах, аслабаніць мужчын дзеля вайсковых чыннасьцяй.

Зьдзейсьненьне гэтых задач мае вялікае практычнае значэньне і ў штодзённым жыцьці насельніцтва як гарадзкога, гэтак і вясковага. Навучыўшыся аказваць першую дапамогу, асабліва організаваныя ў асобныя дружыны першай дапамогі, могуць прынесьці значную карысьць у часе стыхійных няшчасьцяў (паводка, землятрус, пажары і інш.), у няшчасных выпадках на фабрыках, рудніках і ў часе сельска-гаспадарчых работ (абвалы, узрывы, раненьні, атрута і інш.), у часе масавых сьвяткаваньняў і дэманстрацыяў, у часе спартыўных заняткаў. Нарэшце і ў дамовым жыцьці будзе належная дапамога пры даглядзе за захварэўшымі ў сям'і, не гаворачы ўжо аб значэньні для кожнага набытых санітарна-гігіенічных ведаў.

Задачу гэткай падрыхтоўкі насельніцтва ў СССР паставілі прад сабою Таварыствы Чырвонага Крыжу і Чырвонага Поўмесяцу, якія аднэй з галоўных сваіх задач ставяць лячэбна-санітарную дапамогу хворым і раненым чырвонаармейцам і чырвонафлётцам і гэткую-ж дапамогу насельніцтву ў часе гэткіх няшчасьцяў, як вайна. Праз свае мясцовыя Камітэты і Ячэйкі

яны ўтвараюць **Гурткі Першай Дапамогі** пры фабрыках, заводах, установах і ў вёсках, пры Клюбах і Хатах-Чытальнях, клапоцяцца аб забясьпечаньні гэтых Гурткоў кіраўнікамі, навучальнымі прыладамі, памяшканьнямі, вядуць вучот прайшоўшым Гурткі і складаюць з іх Дружыны Першай Дапамогі.

ЦК УЛКСМ лічыць, што разьвіцьцё гэтай працы Чырвоным Крыжам і Поўмесяцам у належным памеры сярод Камсамольцаў і рабоча-сялянскай моладзі і перш за ўсё сярод дзяўчат,—залежыць ад ініцыятывы мясцовых організацый УЛКСМ, ад іх уменьня правідлова ўстанавіць узаемаадносіны з Чырвоным Крыжам і Поўмесяцам і выкарыстаць іх сілы ў справе выхаваньня сьвядомых у адносінах здароўя грамадзян і шырокага распаўсюджаньня сярод мас насельніцтва санітарнай асьветы.

З прычыны вышэйпададзенага, ЦК УЛКСМ прапануе:

1) Увайсьці ў сувязь з мясцовымі Камітэтамі і організацыямі Чырвонага Крыжу і Поўмесяцу з мэтай супольнага ўстанаўленьня практычных формаў і мэтадаў працы.

2) Распрацаваць супольна з Камітэтам Чырвонага Крыжу і Поўмесяцам практычныя мерапрыемствы па правядзеньні тлумачальнай кампаніі сярод сяброў УЛКСМ і рабоча-сялянскай моладзі, абслугоўваючы гэту кампанію, пераважна, сіламі Камітэту Чырвонага Крыжу і Поўмесяцу.

3) Сыстэматычна асьвятляць у Камсамольскім друку працу Камсамолу ў організацыях Чырвонага Крыжу і Поўмесяцу.

4) Неабходна прыняць усе меры да ўцягваньня ў Дружыны і Гурткі Першай Дапамогі сяброў УЛКСМ, асабліва дзяўчат, прыцягваючы разам з гэтым шырокія слаі беспартыйнай моладзі да прыняцьця ўдзелу ў гэтай працы.

5) Шырока паставіць сваёй задачай уцягваньне ў лік сяброў Чырвонага Крыжу—сяброў УЛКСМ і наогул моладзі.

6) Усе практычныя мерапрыемствы ў гэтай галіне павінны быць распаўсюджаны і на піанэраў, уцягваючы апошніх да актыўнага ўдзелу ў працы.

Удзел Камсамолу ў Гурткох і Дружынах Першай Дапамогі можа адзначыцца або ў удзеле Камсамольцаў данага прадпрыемства або групы прадпрыемстваў у адпаведных Гурткох, або ўтварэньні спэцыяльна Камсамольскіх гурткоў з прадстаўнікоў шэрагу Камсамольскіх ячэек, з тым, каб Камсамольцы, скончыўшыя гурткі, маглі ў далейшым быць кіраўнікамі сваіх ячэек на даным прадпрыемстве.

Уся гэтая работа павінна быць ня толькі часткай, уваходзячай у вайсковую работу Саюзу і памагаючай ваенізацыі і вайсковай прапагандзе сярод мас рабоча-сялянскай моладзі, але і больш практычнаму кіраўніцтву і кантролю з боку Камітэтаў УЛКСМ, усьведамляючы ўсю важнасьць данай работы, асабліва ў сучасных варунках, калі пытаньні прапаганды санітарна-гігіенічных ведаў і навыкаў у масах павінны набываць вялікае значэньне.

Цэнтральныя Камітэты Чырвонага Крыжу і Поўмесяцу адначасна даюць па сваёй лініі мясцовым організацыям аналёгічныя ўказаньні.

Сакратар ЦК УЛКСМ **Матвеяў.**

Старшыня Вайсковай Камісіі ЦК **Курнікаў.**

## Усім Акруговым К-там Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу.

Становішча душэўна-хворых на Беларусі зьяўляецца вельмі цяжкім.

Існуючых псыхіятрычных устаноў не хапае для шпіталізацыі ўсіх захварэўшых. Утрыманьне хворых у псыхіятрычных больніцах патрабуе выключных для іх абставін: ім патрэбна і больш сьвятла і больш цяпла, паветра і вельмі многа тульнасьці. У сучасны момант дзяржава ня можа забясьпечыць ўсе запатрабаваньні псыхіятрычных больніц. Дзеля гэтага грамадзянства павінна выявіць свой ўласны пачын і апекавацца гэтымі пакрыўджанымі лёсам людзьмі.

Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу ў асобе Цэнтральнага Камітэту стварыла ў сваім складзе *Камісію Дапамогі Псыхічным Хворым,* якая ў першую чаргу займаецца палепшаньнем становішча хворых у псыхіятрычных больніцах, шляхам дастаўкі ім патрэбных лекаў, бялізны, кармленьня і організацыі заняткаў.

Паведамляючы аб гэтым, — зварочваем Вашую ўвагу на патрэбу організацыі пры Вашым Акруговым Камітэце *Акруговае Камісіі Дапамогі Псыхічным Хворым.* Сродкі на гэтае мерапрыемства складаюцца па асобных асыгнаваньнях Акруговых К-таў, з дабраахвотных ахвяраваньняў, з прыбыткаў ад лекцый, вечароў і інш. збораў.

ЦК просіць Вас узбудзіць у гэтым напрамку грамадзкую ініцыятыву на мясцох, выкарыстоўваючы для організацыі дапамогі псыхічна хворым ўсе магчымасьці і пачын, як інстытуцый Аховы Здароўя, так і прыватных асоб.

Старшыня Цэнтр. Камісіі Дапамогі Псыхічным Хворым Проф. **А. Ленц.**

Нам. Старшыні ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу **А. Цьвікевіч.**

Адказны сакратар **І. Фрыдман.**

---

# ХРОНІКА

## У Цэнтральным Камітэце.

○ З лютага м-цу 1927 г. пры 3 Сав. Больніцы ў Менску Цэнтральным Камітэтам Бел. Т-ва Чырв. Крыжу арганізаваны **Вэнэралёгічны Дыспансэр** Беларускага Чырвонага Крыжу.

З Красавіка м-цу гэты Дыспансэр перададзены Менскаму Акруговаму Камітэту.

○ У зьвязку з буйным узростам Гурткоў Першай Дапамогі і Санітарных Каманд Бел. Чыр. Крыжу, Ц. К. асыгнаваў патрэбныя сумы на закупку ім адпаведнага інвэнтару.

○ ЦК зацьвердзіў зьмены Старшынь Акр. К-таў Бел. Чырв. Крыжоў у Мазыру і Воршы. У Мазыры на мейсцы т. ВАЙНБЭРГА зацьверджаны—т. КАНДРАШУК, а ў Воршы на мейсцы т. КАНТАРОВІЧА—т. ВОЛЬФСОН.

○ З прычыны распаўсюджваньня ў Полаччыне вэнэрычных хваробаў, ЦК па просьбе Акруговага К-ту арганізаваў **Перасоўны Вэндыспансэр** для працы ў раёнах Полаччыны.

Узьнятае полацкім Акруговым К-там хадайніцтва аб арганізацыі купальні і лодачнай прыстані—прызнана ў ЦК немэтазгодным.

○ Па хадайніцтву Выш. Савету Фізкультуры БССР ЦК Чырвонага Крыжу выдаў 300 руб. на правядзеньне доктарскай Конфэрэнцыі па пытаньням мэдычнага кантролю над Фізычнай Культурай. Конфэрэнцыя адбылася 7—10 Мая мес. б. г.

○ У Рыгу, рэдакцыі газэты „Голас Беларуса“ адпраўлена 3000 паштовак, выданьня Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу. Увесь прыбытак ад продажы гэтых паштовак пойдзе на дапамогу бяднейшым вучням беларускіх школ у Латвіі.

○ ЦК выдаў дзіцячы плякат „Памятку Здароўя“ для вучняў і Піанэраў на час летніх вакацыяў.

○ З прычыны ліквідацыі 4 акруг БССР і пашырэньня ў сувязі з гэтым некаторых другіх, ЦК прыняў пастанову аб тым, каб Акруговыя Конфэрэнцыі Т-ва да часу асобнага аб тым паведамленьня не праводзіліся. Раённыя Конфэрэнцыі павінны адбывацца нормальна.

○ На правядзеньне ў бягучым годзе ясельнай кампаніі, — ЦК асыгнаваў 1000 руб., якія скарыстоўваюцца на арганізацыю асобных Яськяў, ці на дапамогу мацярынскім К-там пры Ясьлях.

○ З прычыны запытаньня некаторых Акруговых К-таў, ЦК пастанавіў, што вучні, ня маючыя 18 гадоў могуць быць сябрамі Чырвонага Крыжу

○ На дапамогу пацярпеўшым ад апошняга землятрасеньня ў Японіі, ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу пераслаў Японскаму Чырвонаму Крыжу 200 руб.

○ Беларускія нацыянальныя паштоўкі, выданьня ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу будуць скарыстаны прадстаўніком Бел. Чырв. Крыжу ў Францыі т. РАКОЎСКАЙ на выстаўцы ў Парыжу, якая арганізуецца ў бягучым годзе „Міжнароднай Лігай Жанчын“.

○ Згодна пастановы ЦК 2-гі Ўсебеларускі Зьезд Беларускага Чырвонага Крыжу адбудзецца ў канцы 1927 году, ці ў пачатку 1928 году.

○ ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу ўвайшоў у сябры Беларускага Т-ва Культурнай Сувязі з заграніцай.

○ Цэнтральным Камітэтам аб'яўлена падпіска на Бюлетэнь ЦК 1927 г. Падпісная плата на год—2 р. і на паўгода—1 р. Падпісаўшымся на год будзе выдана прэмія—12 мастацкіх паштовак з беларускімі відамі, выданьня Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу.

○ Адбыўшыйся 3 сакавіка вечар, арганізовваны ЦК—даў на карысьць дзяцей Зах. Бел. 125 р. 58 к. прыбытку.

○ 19 Сакавіка б. г. адбыўся 3-ці Зьезд Грузінскага Т-ва Чырвонага Крыжу. Ня маючы магчымасьці паслаць на Зьезд сваіх прадстаўнікоў, ЦК паслаў Грузінскаму Чырвонаму Крыжу прывітальную тэлеграму, у якой выказаў пажаданьні найлепшых посьпехаў ў яго працы.

○ Некаторыя Акруговыя Камітэты зьвярталіся да ЦК з запытаньнем аб магчымасьці аказваць асабістую дапамогу насельніцтву. ЦК растлумачыў, што Акруговыя К-ты могуць рабіць дапамогу грашыма і рэчамі ў выключных выпадках і толькі на сродкі, якія могуць быць знайдзены на мейсцы.

○ Згодна запатрабаваньню т. **Багоцкага**, — ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу выслаў яму свой знак, фатаграфія якога, разам з фатаграфіямі іншых Чырвонакрыжных знакаў СССР, будзе зьмешчана ў выданьнях Міжнароднага Камітэту.

○ У адказ на пасылку Чэха-Славацкаму Чырвонаму Крыжу выданьняў і інфармацыйнай літаратуры, ЦК Белар. Т-ва атрымаў ад Прэзыдыума Чэха-Славацкага Чырвонага Крыжу ліст з падзякай і матар'яламі аб яго дзейнасьці.

○ ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу атрымана паведамленьне аб тым, што ў Чэрвеню 1928 г. у Парыжу адбудзецца Конфэрэнцыя Міжнароднай Асоцыяцыі Дапамогі Дзецям (Union Internationale de Secours aux Enfants). Прагрáма Конфэрэнцыі прадугледжвае рад праблем, зьвязаных з пастаноўкай справы дапамогі дзецям у розных дзяржавах. Адпаведныя матар'ялы і даклады павінны быць прадстаўлены ў Сэкратарыят МСПД не пазьней 1 Кастрычніка бяг. году.

○ Прадстаўніком Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу ў Токіо (Японія) прызначаны Праф. **Спальвін**, які разам з тым зьяўляецца прадстаўніком іншых Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў СССР.

○ Прыймаючы пад увагу тое выключнае значэньне, якое маюць чыгункі ў выпадках стыхійных закалотаў, ЦК. на паседжаньні 22 Ліпеня вырашыў пачаць пропаганду Чырвон. Крыжу сярод рабочых і служачых чыгунак БССР. Організацыя іх будзе praведзена па вучастках і паасобных чыгунках. У першую чаргу сярод іх будуць створаны **гурткі першай дапамогі**, згодна адпаведна апрацаванай праграме.

○ Старшыня ЦК Бел. Т-ва Чырв. Крыжу **М. І. Барсукоў** з 10 Мая па 10 Ліпеня знаходзіўся у службовай камандыроўцы заграніцай. Падарож т. Барсукова мела ўі навуковыя мэты: ён азнаёміўся з пастаноўкай справы аховы здароўя і са справай Чырвонага Крыжу ў шэрагу эўропэйскіх дзяржаў (Францыя, Нямеччына, Аўстрыя).

Згодна прынятаму звычаю ЦК выдаў т. **Барсукову** адпаведнае пасьведчаньне з даручэньнем зрабіць візыты Цэнтральным Камітэтам Чырвонага Крыжу тых старон, якія ён будзе праяжджаць.

○ На паседжаньні ЦК 29 Мая прадстаўніком Бел. Т-ва Чырв. Крыжу ў Цэнтральнай Дзіцячай Камісіі пры ЦВК БССР абраны Нам. Старшыні **А. І. Цьвікевіч**.

○ ЦК Беларускага Чырвонага Крыжу ўмовіўся з Адэскім Камітэтам Украінскага Чырвонага Крыжу аб тым, каб хворыя дзеці і дарослыя з Савецкай Беларусі па даступных цэнах маглі накіроўвацца для лячэньня на Адэскія курорты Чырвонага Крыжу.

У сучасным сэзоне 1927 г. у Адэсе адкрыты наступныя курорты:

1) Дзіцячы марскі курорт з аддзяленьнем для костна-тубэркулёзных.

2) Дзіцячы санаторы „Белая кветка".

3) Кліматычны санаторы для дарослых.

Папярэдняя запісь прыймаецца ў ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу д-рам т. **Трамповічам**, які робіць адбор хворых.

Па акругах запісь і агляд хворых адбываецца ў адпаведных Акруговых Камітэтах Беларускага Чырвонага Крыжу.

## У Менскім Акруговым Камітэце.

○ 3 Сакавіка м-ца г. г. Менскі Акруговы Камітэт Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу пачаў праводзіць спэцыяльную кампанію па распаўсюджваньню ідэй, па набору сяброў і організацыі ячэек Чырвонага Крыжу сярод Жылішчна-Арэндных Коопэратываў г. Менску.

З гэтай мэтай спачатку рабілася агульная інформацыя аб Чырвоным Крыжу на пасяджэньнях Праўленьняў ЖАКТАЎ. Затым прадстаўнік Акруговага К-ту выступаў з дакладам аб мэтах і задачах Т-ва Чырвонага Крыжу на агульных сходах Жылтаварыства. Гэткіх дакладаў за справаздачны пэрыод адбылося больш 20.

20-га Красавіка г. г. адбылася нарада Ўпаўнаважаных Ячэек Чырвонага Крыжу г. Менску. Прымаўшыя ўдзел у нарадзе вельмі жвава абгаварвалі высунутыя Камітэтам новыя мэтады працы Чырвонага Крыжу сярод Жылтаварыства і ўсю зробленую ў гэтым напрамку працу.

○ Праводзіцца падрыхтоўчая праца па ўдзелу ў абвешчаным ЦК Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу конкурсу на лепшую ячэйку Чырвонага Крыжу.

○ Дзеля ажыўленьня работы Чырвонага Крыжу, Акруговы Камітэт склікаў ў маі м-цы г.г. Райконфэрэнцыі Чырвонага Крыжу па ўсёй Акрузе.

○ У лютым м-цы г.г. Акруговы Камітэт супольна з Н. К. Ах. Здароўя організаваў Лекарскі Атрад па выяўленьню хворых фавусам і стрыглішаем. Азначаны Атрад быў пасланы на працу ў Сьмілавіцкі раён, дзе агледзеў 36 школ і 1 дзіцячы сад—усяго 3237 чалавек. Выяўлена 270 хворых дзяцей, якія, па меры зробленых аналізаў, паступова выклікаюцца ў Менск і зьмяшчаюцца ў Фавозную Лячэбніцу. Памянёны Атрад па скончэньні работы ў Сьмілавічах, будзе пасланы ў іншыя раёны Менскае Акругі.

○ Праверана дзейнасьць ячэйкі Чырвонага Крыжу Астрашыцка-Гарадзецкага раёну пры Санаторыі „Чырвоны Кастрычнік“. Азначаная Ячэйка організавала Коопэратыўны Ларок, Сталовую для супрацоўнікаў-адзіночак і Дзіцячы Пляц. У бліжэйшым часе Ячэйка адчыняе Сухотны дыспансэр для сялян. Адчыненьне апошняга затрымліваецца адсутнасьцю неабходнага памяшканьня, аб чым паслана хадайніцтва ў Менскі Акрвыканком.

○ 31-га Лютага г.г. Акруговым Камітэтам запрошан на службу Юрысконсульт, які бескаштоўна абслугоўвае матак-адзіночак, якім патрэбна юрыдычная дапамога. Працуе ён пры Савеце Сацыяльнай Дапамогі Менскага Акруговага Здраўадзелу. Лік зваротаў у Юрыдычную Кансультацыю за Люты м-ц—60 чал., за Сакавік—107 чал.

○ Існуючая пры Акруговым К-це Камісія „Служба здароўя Піанэраў“, намеціла шэраг практычных работ па абслугоўваньню Піанэр-Атрадаў. Загатоўлены паходныя торбачкі—аптэчкі для Піанэр-Атрадаў. Загатоўлены паходныя торбачкі—аптэчкі для Піанэр-Атрадаў г. Менску. Азначаным Атрадам будуць выдадзены бескаштоўна мэдыкамэнты дзеля сталага абслугоўваньня Піанэраў. У памяшканьні Акруговага Камітэту (вул. Карла Маркса № 3) адчынены Зубалячэбны Габінэт.

○ Дзеля бескаштоўнага абслугоўваньня сялянскага насельніцтва ў Менскай Акрузе працуюць 2 Зубалячэбных Габінэты. Адзін з ніх працуе ў сучасны момант у Заслаўскім раёне, а другі ў Пярэжырскім Сельсавеце, Сьмілавіцкага раёну. Шляхам выезду ў Пярэжырскі Сельсавет там організаны Гурток Першай Дапамогі, у склад якога ўваходзяць пераважна сялянкі. У тым-жа Сельсавеце маецца Ячэйка Чырвонага Крыжу, якая налічвае больш 100 чал. Сяброў Т-ва.

○ 5-га Сакавіка г.г. быў організаваны і адчынены Вэндыспансэр Чырвонага Крыжу; які працуе пры 3-й Сав. Больніцы г. Менску. Да гэтага часу праз Дыспансэр прайшло 618 хворых, з іх першую дапамогу атрымала 370 чалавек.

○ У Сакавіку г. г. праведзена лекцыя прафэсароў: ЦІТОВА, ВЫДРЫНА і РУБАШОВА на тэму: „Рак, яго істасьць і лячэньне“. Лекцыя мела вялікі посьпех сярод слухачоў.

○ Вялікая праца праводзіцца па арганізацыі **„Жаночых Гурткоў першай мэдычнай дапамогі"**. Пры прадпрыемствах і ўстановах г. Менску маецца 21 Гурток, а ў раёнах—2. Усяго гурткамі ахоплена болей 450 чал. Большая частка з іх ужо закончыла заняткі і прадаўжае ўдасканаленьне па спэцыяльным мэдычным пытаньням. Пры Акруговым К-це адбылася 1-я Нарада Стараст усіх азначаных гурткоў, на якой было прынята шэраг пастаноў аб далейшай практычнай масавай працы.

У дзень 1-га Мая ўсе гурткі дэманстравалі па г. Менску, пры чым дзеля аказаньня дапамогі з іх складу былі выдзелены 2 санітарныя дружыны.

○ У Лагойскім і Сьмілавіцкім раёнах установлены ў некаторых коопэратыўных крамах па сельсаветам аптэчкі—шафкі. Дзякуючы гэтаму сяляне маюць магчымасьць на месцы атрымаць добрыя мэдыкамэнты па даступных цэнах. Такія аптэчкі-шафачкі будуць установлены і ў другіх раёнах Менскай Акругі.

○ За справаздачны пэрыод выдадзена грашовай дапамогі:

| | |
|---|---|
| Быўшым уцекачом . . | 162 руб. |
| Набыта бялізны і абуцьця для душэўна-хворых пры Псыхіятрычнай Больніцы на | 200 „ |
| Пацярпеўшым ад пажару ў г. Менску на Савец. вул. | 100 „ |
| Дэмабілізаваным Чырвонаармейцам і трапіўшым у нэндзу . . . . | 1292 „ |
| Раённым Саветам Сац. Дапамогі . . . . . . | 60 „ |
| На абслугоўваньне Юрыдычнай Кансультацыі . . | 180 „ |
| Лячэбнаму Атраду па барацьбе з фавусам і стрыг-лішаём . . . . . . | 75 „ |
| На ўтрыманьне курсаў першай Дапамогі . . . . | 650 „ |
| На ўтрыманьне Зуб. Габінэтаў . . . . . | 685 „ |
| Сьмілавіцкаму Раённаму Камітэту на рамонт студняў | 100 „ |
| Разам . . | 3504 руб. |

# ПРАЦА НА МЯСЦОХ

## Чырвоны Крыж у Калініншчыне.

Організацыя Чырвонага Крыжу, існаваўшая з 1926 году, фактычна прыступіла да сталай працы з 1 лістапада мінулага году. Першай задачай было абраньне на агульных гарадзкіх сходах упаўнаважаных па калектывам, якіх зараз налічваецца 30 асоб, і паступовае абраньне Бюро ячэек, якіх па гораду маецца цяпер 3. Па раёнам уся організацыйная праца была ўскладзена на назначаных упаўнаважаных, якіх было ўсяго 10 —у большасьці мэдпрацаўнікі.

Трэба зазначыць, што некаторыя з гэтых назначаных райупаўнаважаных да выкананьня ўскладзеных на іх абавязкі адносіліся нядбайна, а некаторыя, як, напрыклад,—Чэрыкаўскі, Бялынкавіцкі, Расьнянскі і Мсьціслаўскі—зусім нічога не рабілі і да працы не прыступалі. Гэта прымусіла Акруговы Камітэт зьняць некаторых таварышоў з гэтай працы і прызначыць на іх месца іншых, больш працаздольных.

Пасьля правядзеньня двухтыднёвіка Чырвонага Крыжу, які праваdзіўся з 1 па 15 студзеня г. г., мы маем шэраг дасягненьняў, як у павялічэньні ліку сяброў Т-ва, таксама і ў афармленьні ячэек.

На сёньняшні дзень Акруговы Камітэт налічвае:

1.515 сяброў, з іх 497 сялян; 3 раёных Камітэты (Хоцімск, Касьцюковічы і Чэрыкаў); 7 Райупаўнаважаных у рэшце раёнаў; 14 Бюро ячэек; 30 упаўнаважаных Чырвонага Крыжу па калектывам гораду, таксама завярбована ў сябры Т-ва тры атрады піанэраў з агульным лікам да 100 асоб.

Па вайскова-санітарнай падрыхтоўцы організованы і працуюць *Гурткі Першай Дапамогі* па аднаму ў наступных раёнах: у Касьцюковічах, у Брацькавічах, Хоцімске, Чэрыкаве, Мсьціслаўлі і ў Клімавічах. Уцягнута ў лік слухачоў каля 200 асоб. Цікава адзначыць, што на курсы наведваецца ня толькі моладзь, але і паважныя жанчыны па 40—45 гадоў.

У бліжэйшым часе праэктуецца будаваньне грамадзкай лазьні ў Мілаславічах, на якую мэту асыгнавана 300 руб. Організаваны, але яшчэ не адчынены дзьве дзіцячыя кансультацыі Чырвонага Крыжу—у Чэрыкаве і Расьне. Яны пачы-

наюць функцыянаваць з 15 мая г. г., для якой мэты здабыты дзьве дзіцячых вагі.

Набыта дваццаць бібліатэчак па сан. асьвеце, якія разьмяркованы па раёнам і па хатам-чытальням.

У мэтах узмацненьня грашовага стану праводзяцца розныя мерапрыемствы, як напрыклад: лётарэі, пастаноўка спэктакляў, якія даюць добрыя вынікі.

Наогул трэба сказаць, што праца па Чырвонаму Крыжу паступова пачынае разгортвацца. Вядзецца, галоўным чынам, яна на вёсцы, што дае добрыя вынікі: як сьведчаць цыфры, сяляне складаюць 1/3 частку ўсіх сяброў Т-ва.

Працай па Чырвонаму Крыжу выдаюцца асабліва т. т. *Падабед* (Мілаславічы), т. *Буман* (Чэрыкаў) і т. *Кліонскі* (Расна). Па Чэрыкаўскаму Райкамітэту па працы выдзьвінуўся Сакратар Райкамітэту т. *Раханскі*, дзякуючы якому справа шпарка разьвіваецца. За кароткі час навярбованы 201 сябра, аформлены 8 ячэек, праведзен 1 спэктакль.

**Паткоўскі.**

## На акруговым зьезьдзе Калінішчыны.

Калінінск такі горад, што калі вы ня ведаеце дзе знайсьці патрэбнага чалавека—запытайцеся возьніка: ён за рубель ня толькі завязе вас да гэтага чалавека, але па дарозе раскажа яшчэ і ўсю яго біографію.

Гэткім чынам прышлося рабіць і мне, калі я прыехаў 17 сакавіка б. г. у Калінінск дзеля правядзеньня Акруговага Чырвона-Крыжнага Зьезду.

Цягнік прыйшоў позна, нікога ў канцыляры і Акруговага Камітэту Чырв. Крыжу я не застаў,—каб знайсьці прыватны адрас Сакратара Камітэту,—трэба было пайсьці за дапамогай да возьніка.

Праз гадзіну ўсё было знойдзена і мы былі ў канцэлярыі Камітэту. Хутка зьявіўся і Акруговы Упаўнаважаны Чырвонага Крыжу. Назаўтра адбылі нараду, узгоднілі ўсе пытаньні з адпаведнымі ўстановамі, апрацавалі праграму Зьезду і г. д.

У мінулым годзе, калі па ўсім акругам праводзіліся Зьезды Т-ва, у Калінішчыне гэтага зрабіць было немагчыма па прычыне слабасьці організацыі. Сёлета становішча іншае. Дэлегаты сваечасова зьбіраюцца. Зьехалася да 60 чалавек, ад усіх раёнаў і ад ячэек гораду. Сярод іх старыкі, маладыя хлапцы і дзяўчаты. Сяляне, рабочыя, дактары, настаўнікі, краяведы, служачыя. Не спадзяваўся я ўбачыць тут так шмат дэлегатаў, якія прадстаўлялі амаль усе кругі насельніцтва Калінішчыны.

Зьезд адчыніўся 18 сакавіка а 6 гадзіне ўвечары ў рабочым клюбе.

Перш на перш, як звычайна—прывітаньні. Першыя прывітаньні ад Акружкому Партыі, ад Акруговага Савету Профсаюзаў, ад ЦК Чырвонага Крыжу, затым шмат іншых. З адказам выступаюць прадстаўнікі дэлегатаў.

Пасьля ўрачыстай часткі дэлегатам з вёскі перадалі білеты за кошт Чырвонага Крыжу ў Народны Дом, дзе яны бачылі тэатральную пастаноўку. На другі дзень 19/III раніцою Зьезд распачаў дзелавыя пасяджэньні.

Даклад праўстаўніка ЦК Чырвонага Крыжу аб працы і чарговых задачах Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу выклікаў жвавыя спрэчкі. Выказалася па гэтаму дакладу чалавек 15—большасьць прадстаўнікі раёнаў. Адзначалі дасягненьні Т-ва, а разам з тым і крытыкавалі. Крытыка была здаровая,—пераважна ад людзей, якія ведаюць працу і вынясьлі яе на сваіх плячох па раёнам і ў гарадзкіх ячэйках. Выступаўшыя адзначалі вялікае значэньне, асабліва для вёскі, якое мае Чырвоны Крыж. Асабліва адзначалася Зьездам Санітарна-аздаравіцельная праца Т-ва на вёсцы, якая праводзіцца шляхам арганізацыі перасоўных зуб. габінэтаў, вэнэралёгічных атрадаў, дзіцячых консультацый на вёсцы, будаўніцтва лазьняў і студняў.

Затым быў справаздачны даклад Акруговага Упаўнаважанага, даклады 3-х раёных упаўнаважаных і садаклад Брацькавіцкай ячэйкі. Тут таксама было шмат спрэчак. Адзначалі хібы акруговай арганізацыі і тое, што да гэтага часу праца не разгорнута як трэба было б.

Даклады раённых упаўнаважаных далі навочны малюнак, як разьвіваецца справа на мясцох і якія мэтады працы лепш сябе апраўдалі. Асаблівую ўвагу Зьезд зьвярнуў на садаклад Брацькавіцкай ячэйкі Т-ва, якая мае да 150 сяброў і аддзяленьні ў 5 вёсках, пры якой арганізаваны дзіцячыя ясьлі, выдаюцца пайкі праз Дзіцячую Консультацыю, праведзена вялікая агітацыйная і выхаваўчая праца.

У пастанове па справаздачы Акруговага Упаўнаважанага Зьезд намеціў далейшыя шляхі разьвіцьця арганізацыі і сказаў аб неабходнасьці разгарнуць дзейнасьць Т-ва на вёсцы па санітарна-аздаравіцельнай галіне.

Упяршыню на гэтым Зьезьдзе быў абран Акруговы Камітэт Чырвонага Крыжу ў складзе 17 асоб (з якіх 10 - ад раёнаў), Рэвізыйная Камісія і дэлегаты на 2-гі Усебеларускі Зьезд Т-ва.

Падагульваючы працу Зьезду, можна прызнаць, што ён прайшоў добра; спрэчкі былі дзелавыя, вырашана шмат прынцыповых і практычных пытаньняў. На падставе пастаноў Зьезду, раёныя арганізацыі Т-ва таксама могуць разгарнуць сваю дзейнасьць. Ім дана шырокая магчымасьць праявіць сваю ініцыятыву на карысьць сялянства і працоўнага насельніцтва.

**І. Фрыдман.**

## ПОЛАЦАК.

Выконваючы пастанову 1-га Ўсебеларускага Зьезду Т-ва і двух Пленумаў ЦК, Полацкі Акруговы Камітэт у сьнежні м. г. скончыў ліквідацыю сваіх гандлёвых прадпрыемстваў. Прадпрыемствы перададзены Полацкай Акруговай Дзіцячай Камісіі на ўмовах сплаты Камітэту 40 проц. чыстата прыбытку на працягу 3-х гадоў.

У сувязі з ліквідацыяй гандлёвай дзейнасьці, становішча К-ту значна зьмянілася, энэргія, якая трацілася кіраўнікамі К-ту на камэрцыю, цяпер пашла на ўзмацненьне організацыйнай і грамадзкай дзейнасьці.

Гэта сказалася адразу на рэзкім павялічэньні колькасьці сяброў Т-ва: на 1 кастрычніка 1926 г. у Полацкай Акрузе лічылася 643 сябры, а на 1 красавіка 1927 г. было ўжо 1075; пры гэтым колькасьць сяброў па раёнах павялічылася ў тры разы.

Замест існаваўшага аднаго раённага Камітэту, пасьля правядзеньня раённых конфэрэнцый будуць абраны раённыя камітэты па 6 раёнах. Апроч гэтага організована 20 ячэек пры раённых установах, больніцах і сельсаветах.

У горадзе праца таксама пашырылася. Ёсьць 20 ячэек, адзін палкавы камітэт і ячэйкі па ротах. У бліжэйшы час будуць організаваны ячэйкі і ў іншых вайсковых часьцях.

*Наогул трэба адзначыць, што організацыйная праца і аўтарытэт Чырвонага Крыжу пашырыліся так, як немагчыма было і думаць пры існаваньні гандлёвых прадпрыемстваў.*

Грашовае становішча к-ту, дзякуючы ліквідацыі гандлю, было спачатку даволі цяжкім, бо ў першы час ня было магчымасьці атрымаць ад дзіцячай Камісіі процантных адлічэньняў па перададзеным ёй прадпрыемствам. У сувязі з гэтым, Акруговы Камітэт у першы раз атрымаў датацыю ад ЦК у суме 475 руб. і доўгатэрміновую пазыку ў суме 500 руб.

Разам з паступленьнямі Акруговага К-ту—каштарыс на 1 квартал 1927 г. быў збалянсаваны ў суме 1202 руб. 40 к. Галоўным чынам прадугледжаны выдаткі на дапамогу раёнам, на організацыю *Гурткоў Першай Дапамогі*, дапамогу Дому Дзіцяці і сан. асьветную працу.

Між іншым Вушацкаму раённаму К-ту на пабудову пакезальнай студні выдана 120 руб.; у раёны паслана 5 бібліатэчак папулярнай сан. асьветнай літаратуры і плякатаў па тубэркулёзу; выпісана літаратура для гурткоў першай дапамогі, якія пачнуць працу ў бліжэйшы час у некаторых раёнах і ў горадзе.

Як і раней Камітэт аказвае дапамогу Піанэратраду, імя КІМ і Дому Дзіцяці.

У мэтах разьвіцьця працы Чырвонага Крыжу сярод Фізкультурнікаў і КСМ,—Камітэтам установлена сувязь з Акруговым Саветам Фізкультуры і Акр. К-там КСМ, якія ўжо далі адпаведныя дырэктывы сваім раённым організацыям.

З дапамогай Цэнтральнага К-ту організуецца перасоўны Вэнэролёгічны Дыспансэр для працы па раёнах.

**Магаршак.**

**ГОМЕЛЬ.**

# Итоги работы с 20 января по 1-ое мая 1927 года.

Гомельский Окружной Комитет Красного Креста оформился во второй половине января текущ. года, получив в наследство от Губкомитета РОКК на текущем счету 23 р. 10 к. при наличии 3-х Краснокрестовских учреждений, содержавшихся за счет центра. Количество членов Красного Креста по всей губернии насчитывалось до 500 чел. и то распыленных и не оформленных ячейкам.

Основной задачей сконструировавшегося Окружного Комитета была популяризация Общества в руководящих органах, а также среди широких трудящихся масс. Последнему способствовало наличие в Гомельщине лечебно-профилактических учреждений Красного Креста. В результате работы, благодаря постановке докладов в руководящих органах приняты постановления об оказании всемерного содействия Красному Кресту со стороны низовых организаций в вербовке индивидуальных и коллективных членов и в создании ячеек на предприятиях и при учреждениях. За отчетный период в состав Гомельского Окружного Комитета завербовано свыше 1000 членов (в том числе 12 коллективных), организовано по округу 37 ячеек, создано 9 районных организаций, при чем в 2-х районах оформились районные комитеты, а в остальных пока работают уполномоченные.

Проведен ряд информационных собраний как в городском районе, так и в провинции, сделано 4 выезда в район для обследования местной работы. Оказана помощь политзаключенным Западной Белоруссии, выразившаяся в организации кино-сеанса, давшего чистого дохода 113 р. 57 к.; оказана помощь Совету Социальной Помощи при Консультации для беременных женщин и грудных детей путем передачи им имевшегося незначительного количества дамских халатов, полотенец, наволочек, простынь и т. д. для раздачи нуждающимся матерям, посещающим Консультацию.

Приняты меры к бесперебойной работе лечебно-профилактических учреждений, на коих составлена расходная смета,

в пределах которой и отпускаются средства. Заслушиваются отчеты о состоянии работы означенных учреждений с целью оказания содействия и руководства в работе.

Большая работа проделана в области организации кружков первой помощи, которых в Гомельском Округе имеется 8. В городском и Белицком районах во время демонстраций 1-го мая некоторые кружки демонстрировали по городу с краснокрестовскими нарукавниками. Особое внимание обращено на организацию кружков среди пожарников, физкультурников, юнсекций, пионеров и среди членов Общества Спасания на Водах. Однако, нет еще достаточной литературы и соответствующих приспособлений: сумок, газовых масок, носилок и проч.

Для изыскания средств Гомельский Окр. Комитет при помощи дотации ЦК в 500 руб. подписал соглашение с Об-вом Спасания на Водах о создании водной станции с катанием на лодках, обучением плаванию, переправы через реку, с гигиенической купальней и т. д.

В организации этого общественно полезного дела ближайшее участие принимал и окружной совет физкультуры, который заинтересован развитием гребного спорта и нормального плавания.

Кроме этого, как источник дохода в Окр. Комитете создан „Курортный стол", где по договоренности с Курбюро, бронируются места и железнодорожные плацкарты прямого сообщения. Зо бронировку взимается незначительная сумма, идущая на орграсходы по обслуживанию едущих на курорты.

Очередной задачей Комитета является подготовка к Окружному С'езду и оформление самого Окружного Комитета. Параллельно с этим предстоит оформить во всех районах Районные Комитеты, и в связи с укреплением округа, распространить организацию Красного Креста на присоединенные районы.

**Кнох.**
*Председатель Гомельского Окр. Комитета Кр. Кр.*

## НОСОВИЧИ (Гомельский Округ).

За отчетный период организовано 3 ячейки: коллектива Союза МСТ, комбината Совхоза Носовичи и кустарной ячейки Комсомола с количеством членов в 45 чел. В настоящее время находится в периоде организации еще 3 ячейки: ячейка Комитета комсомола, Союза Совторгслужащих и Союза Рабпрос. Докладов проведено 3,—все организационного характера.

14-го апреля оформлен на общем собрании членов Районный Комитет, членами которого вошли представители всех

местных организаций. Организован при кустарной ячейке комсомола Кружок Первой Помощи. Активность членов кружка высокая,—посещают все 100%. Связь с местными организациями—РИК'ом, Райкомом КП(б)Б налажена. Материальная поддержка со стороны Райисполкома слабая. Из практических мероприятий по Носовичскому району намечена, в первую очередь, постройка колодца в районе местечка, около реки, где жители пользуются речной водой, что всегда грозит распространением заразных болезней. К сожалению, РИК, вследствие бедности своего бюджета, не может оказать никакой материальной поддержки. Этому делу приходится расчитывать на субсидию Окружного Комитета.

**Дунье.**

*Председатель Районного Комитета*
*О-ва Кр. Кр. Носовичского района.*

## РЕЧИЦА.

Весьма ценной общественной организацией в деле санитарной подготовки трудового населения на случай войны и в мирное время является О-во Красного Креста. А между тем по Речицкому округу (быв. уезду) этой организации, как массово-действенной, не было.

Раньше был выделен уездный Уполномоченный РОКК в лице одного врача, который за несколько лет успел поставить один спектакль в пользу РОКК и навербовать человек 40 (и то номинально) в члены О-ва, преимущественно из числа членов Союза Медсантруд. Никаких ячеек по предприятиям, учреждениям и организациям не было. Массовой работы не проводилось,—широкие задачи О-ва не претворялись в жизнь. Партийно-комсомольские и профорганизации в работу О-ва и вообще в эту организацию не были втянуты; широкие рабоче-крестьянские массы даже и не „слыхивали" о том, что у нас есть О-во Кр. Креста. Чуть-чуть только была затронута верхушка медработников, которым за перегруженностью было не до О-ва.

Иначе дело обстоит с тех пор, как нас присоединили к БССР и стало быть к БОКК. За очень короткий (месячный) срок по Речицкому Округу мы имеем: в городе—вполне оформленных 5 ячеек (150 чл.) 2 коллективных члена в лице предприятий; по Округу—выделенных Райкомами КПБ(б) Райуполномоченных по организации О-ва Красного Креста; в некоторых районах (Юревичи) уже оформились ячейки и Райкомы (около 100 членов в 2-х районах). Работе, как в городе, так и по округу, помешала проводимая кампания по перевыборам советов, которая захватила внимание всех слоев населения и всех организаций. В данное время ведется подготовка к районным и окрконференции.

В части практической—ведется техническая подготовка к открытию военно-санитарных курсов в городе и в местечковых поселках, для чего в городе уже намечены лектора, подработана программа, намечено помещение для занятий.

Организация передвижного зубоврачебного кабинета затормозилась за отсутствием зубврача.

Вопрос о постройке общественных бань в некоторых районах захватил общественное мнение партийных и советских кругов, которые ведут в этой области подготовительную работу, надеясь на материальную поддержку со стороны БОКК. Есть надежда и полная уверенность в том, что О-во Красного Креста, как массовая общественно-самодеятельная организация в Речицком округе, безусловно, привьется и будет жизненно-действенной.

**Денискин.**

*Уполномоченный О-ва Кр. Кр. по Речицкому Округу.*

## СЛУЦАК.

Слуцкае Т-ва Чырвонага Крыжу організавалася ў студзені м-цу 1925 г., але праца адразу ня была распачата па шмат якім прычынам: папершае—дзякуючы адсутнасьці вопыту ў працы (раней ніякай чырвона-крыжнай працы ня было, апроч гандлёвых прадпрыемстваў, якімі кіраваў непасрэдна ЦК); падругое—дзякуючы адсутнасьці штатнага працаўніка, і патрэцяе—дзеля адсутнасьці якой колечы матар'яльнай базы.

Праца пачынае прыймаць організаваны характар ледзь у пачатку 1926 году. Да верасьня м-цу 1926 г. было да 100 чалавек сяброў Чырвонага Крыжу. У студзені м-цы 1927 г. было 323 чал., а ў цяперашні час (красавік 1927 г.) у організацыі налічваецца вышэй як 1500 сяброў.

Набор сяброў да апошняга часу праводзіўся асабовы. Па згодзе з прафэсыянальнымі, партыйнымі, ваеннымі і інш. організацыямі рабіліся інфармацыйныя даклады аб задачах і працы Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу. Гэткіх дакладаў праведзена 41. Таксама рабіліся даклады і на партыйных і комсамольскіх сходах.

У пляне працы на 1927 г. проэктавалася адчыненьне ў горадзе Слуцку магазыну „санітарыі і гігіены" і зубное прафілактычнае амбуляторыі. Адчыненьне апошняй адбылося 8-га сакавіка б. г. у сьвята Міжнароднага Жаночага Дню (гл. аб гэтым ніжэй).

З маючыхся сродкаў па каштарысу на санітарную дапамогу вёсцы, Акруговы К-т асыгнаваў Стара-Дароскаму

раёну—100 руб. на закуп шаек, бочак для вады і правядзеньне невялікага рамонту лазьняў Нова-Дароскага с/с.; у гэтым с/с. наглядаецца масавае захвараваньне часоткай. Асыгнавана таксама на будаўніцтва лазьні пры польскай мяжы ў мястэчку Семяжове—150 руб., грошы на гэтую справу пераведзены ячэйцы, якая прыймае самы актыўны ўдзел у будаўніцтве лазьні. Апроч таго асыгнаваны грошы на будаўніцтва лазьні ў вёсцы Жораўцы, Любаньскага раёну.

Акруговым К-там праведзена праца дзеля адчыненьня ваенна-санітарных курсаў і арганізацыі гурткоў „Першай Дапамогі", у першую чаргу пры Старобінскім, Стара-Дароскім і Капыльскім Райкомах Чырвонага Крыжу. Усе яны забясьпечаны адпаведнай літаратурай і грашыма. У горадзе на санітарныя курсы запісалася звыш 60 чалавек,—курсы распачалі сваю працу.

Дзеля ўзмацненьня грашовага фонду, апрача пастаноўкі спэктакляў, якія далі 20 руб., Акруговым К-там зроблены 10 кружак з надпісам: „Памагіце беднаму, хвораму і інваліду". Па адчыненьні часткі кружак, у іх знайшлося 21 руб. 40 к. Кружкі гэты знаходзяцца пры мэдычных ўстановах.

Прызначана ў бліжэйшы час правесьці „тыдзень" па збору афяраваньняў на карысьць Чырвонага Крыжу і адпаведную кампанію па тлумачэньні мэт і дзейнасьці Чырвонага Крыжу.

У зьвязку з ростам організацыі ўзяты курс на пашырэньне сеткі Чырвона-Крыжных Ячэек па раёнах. Усяго пакуль што налічваецца ў Слуцкай Акрузе 27 ячэек. У стадыі афармленьня знаходзіцца 8 ячэек.

**П. Савановіч.**

## Адчыненьне Дзіцячай Прафілактычнай Зубамбуляторыі ў Слуцку.

Абраны ў жніўні 1926 г. Слуцкі Акруговы камітэт Чырвонага Крыжу ў пляне сваёй працы меў адчыненьне ў горадзе дзіцячай зубной амбуляторыі, у якой адчувалася вялікая патрэба.

Прайшло некалькі месяцаў, у працягу каторых ўзьнімаліся розныя проэкты Амбуляторыі. Думалі адчыніць Амбуляторыю для вучняў і чырвонаармейцаў, думалі організаваць прыём вучняў у габінэце 1-ай Сав. Больніцы, але ўсе гэтыя праэкты па тым ці іншым прычынам ня былі зьдзейсьнены. У лютым б/г было паднята пытаньне ў ЦК аб асыгнаваньні сродкаў на Амбуляторыю. Быў складзен каштарыс на суму 816 р. 95 к., які і быў зацьверджаны.

Адчыненьне амбуляторыі было прыстасавана да Дню Жанчыны. 8 сакавіка адбылося ўрачыстае пасяджэньне, на якім былі прысутнымі дэлегаткі, прадстаўнікі Жан. аддзелу, Партыі, работніцы і сялянкі.

У прывітальным слове т. Сарановіч—Старшыня К-ту азнаёміў прысутных з мэтамі і задачамі Чырвонага Крыжу і заклікаў да садзейнічаньня Чырвонаму Крыжу ў яго працы шляхам уступленьня ў сябры Т-ва.

Загадчык амбуляторыі т. Пэркаль падкрэсьліў рост нашай чырвона-крыжнай грамадзкасьці, — адчыненьне амбуляторыі ёсьць вынік працы Чырвонага Крыжу. Унесеная ім прапанова аб прыняцьці Жаночым аддзелам шэфства над амбуляторыяй было прынята з аплёдысмэнтамі.

Свае заўважаньні і пажаданьні дэлегаткі запісалі ў сшытак даведнікаў.

У сучасны момант вядзецца плянамерная санацыя арганізаванага дзіцячага насельніцтва. Вядзецца сыстэматычнае абсьледваньне дзяцей, а разам санасьветныя бяседы ў школе і дзіцячых дамох. Усе дзеці, якія патрабуюць прафілактычнага лячэньня, накіроўваюцца ў амбуляторыю. Апроч гэтага прыймаюцца і ўсе дзеці, якія зьвяртаюцца за дапамогай самі.

Вынікі абсьледваньня паказваюць вялікі процант зубной хворасьці дзяцей. Мэтазгоднасьць адчыненьня амбуляторыі прызнаецца і бацькамі і настаўнікамі і ўсімі зацікаўленымі ўстановамі.

**К. Пэркаль.**

## БАРЫСАЎ.

### Па раёнах Барысаўскае акругі.

У канцы сакавіка б/г я аб'ехаў тры раёны Барысаўскай акругі—Халопенецкі, Чарэйскі і Крупскі.

У Халопенічах ёсьць выбраны Райкамітэт; членаў Бел. Чырвонага Крыжу 72 чал. Праца Камітэту ідзе нармальна; апрача студні ў вёсцы Гурца, якая будуецца за сродкі ЦК. зьбіраюцца грошы для збудаваньня студні ў іншых вёсках. З 1 красавіка ў Халопенічах адкрыўся Гурток Першай Дапамогі.

У Чарэйску ў лютым месяцу організавана ячэйка, маючая 25 членаў. Абраны ўпаўнаважаны лекпом *т. Красоўскі,* які завербаваў у члены Бел. Чырвонага Крыжу сяброў мэдсанпрацы. Пад час прыезду тут быў скліканы вялікі сход, на якім быў зроблены даклад аб мэтах і дзейнасьці Бел. Чырвонага Крыжу і была прынята рэзалюцыя аб перанясеньні працы ячэйкі на вёску.

У Крупках да апошняга часу ячэйкі ня было. Прычына—адсутнасьць працаўніка, які зацікавіўся-бы праграмай Чырвонага Крыжу і быў-бы здольны яе правесьці. Цяпер за работу ўзяўся ўчастковы доктар т. Сьлепян і трэба спадзявацца, што справа хутка пойдзе наперад.

**Б. Пятровіч.**

*Сакратар Барысаўскага Акруговага Камітэту Чырв. Крыжу.*

## МАЗЫР.

3 сакавіка 1926 г. на сродкі Чырвонага Крыжу ўтрымоўваецца консультацыя для дзяцей, цяжарных жанчын і гінеколёгічак у м. Нароўлі, Нараўлянскага раёну, Мазырскай акругі.

За тэрмін з сакавіка па 31-га сьнежня 1926 г. уключна было даведваньняў: дзяцьмі 2262, цяжарнымі 433, гінеколёгічкамі 381.

Апрача гэтага, з жніўня 1926 г. у г. Мазыры арганізована для сяброў Чырвонага Крыжу кваліфікаваная мэддапамога па тэрапэўтычным захворваньням, якую адказвае д-р Жоўты.

За 3 месяцы 1926 г. аказана мэддапамога 74 сябрам Чырвонага Крыжу з водпускам лекарстваў за кошт Чырвонага Крыжу.

## БАБРУЙСК.

Пры дапамозе ЦК Бабруйскі Акруг. Камітэт заснаваў у г. Бабруйску Зубатэхнічную лябораторыю. Пры лябараторыі адкрыт прыём па зубным хваробам для вучнёўскай моладзі і піонэраў.



# У Выканаўчым Камітэце Чырв. Крыжоў і Чырв. Поўмесяцаў.

О Адным з асноўных пытаньняў, якія разглядаліся ў Выканкоме, было пытаньне аб устанаўленьні больш цесных узаемаадносін між Т-вамі Чырв. Крыжоў і Чырв. Поўмесяцаў СССР і АСАавіяхімам і яго мясцовымі орга-

нізацыямі. З гэтай мэтаю быў зложаны проэкт, які выясьняе прынцыпы гэтых узаемаадносін і ўзгоднены Сакратарыятам Выканкому і Сакратарыятам АСАавіахіму. Праэкт гэты ў бліжэйшым часе будзе дадзены на разгляд Цэнтральнага Савету АСАавіахім і Выканкому Саюзу.

○ У Калегіі Наркаміндзелу быў заслуханы даклад Выканаўчага Камітэту аб яго дзейнасьці ў сувязі з ліквідацыяй конфлікту Швайцарыі і яе байкоту.

○ У бліжэйшым часе ў Прэзыдыуме Цэнтр. Выкан. Камітэту СССР будзе заслухана справаздача Вык. Камітэту Саюзу Чырв. Крыжоў і Паўмесяцаў аб яго дзейнасьці.

○ У сувязі з тым, што дакрэт, які даваў некаторым організацыям льготы па зборы падатку на карысьць Чырвонага Крыжу і Поўмесяца, тлумачыўся імі вельмі расшырана,—Наркамфін СССР, згодна просьбе Выканаўчага Камітэту злажыў у Саўнаркоме СССР проэкт аб зьмене асноўнага законадаўства аб тэатральнай рэгаліі, які дакладна вызначае, што ігарныя прадпрыемствы—казіно, лато і г. д. ні ў якім разе не падлягаюць звальненьню ад збораў на карысьць Чырвонага Крыжу і Поўмесяцу. Гэтак сама ня могуць быць звольнены і прадпрыемствы з прадстаўленьнямі, якія эксплёатуюцца названымі організацыямі пры дапамозе антрапрэнёраў.

# Па Саюзных Таварыствах.

## Грузінскае Т-ва Чырвонага Крыжу.

На тэрыторыі Грузінскае ССР Чырвоны Крыж мае ў мінулым 1926 г. 47 мэдычна-санітарных установ, у якіх працавала 158 чал. (44 доктары, 54 сярэдняга пэрсоналу, 60 ніжэйшага). Праз гэтыя ўстановы прайшло 78.192 хворых, якія зьвярнуліся за дапамогай 233.520 разоў. З гэтага ліку хворых малярыяй—29.965 асоб, на якіх выдаткавана хіны звыш 160 кілг.

Т-ва мае дыапозітыўны фанар і вядзе шырокую санітарна-асьветную прапаганду. З гэтай мэтай выдаецца масавая літаратура. Т-ва прыходзіць на дапамогу ў барацьбе з бяспрытульнасьцю, для чаго мае амбуляторыю. Дапамагае піонэрскім організацыям.

Грузінскае Т-ва мае самастойнае прадстаўніцтва ў Швайцарыі і Францыі. За адсутнасьцю сродкаў прышлося адмовіцца ад прадстаўніцтва ў Нямеччыне, Англіі і Амэрыцы.

Бюджэт Т-ва: у 1923 г.—75.000 р., у 1924 г.—163.000 р., у 1925 г.—163.000 р. і ў 1926 г.—284.000 р. Маемасьць Грузінскага Чырвонага Крыжу ў 1926 г. раўнялася 719.425 руб.

Ад 19-га па 22-е сакавіка г. г. адбыўся Ўсегрузінскі Зьезд Т-ва Чырвонага Крыжу. У Цэнтральны Камітэт выбрана: 51 сябра і 10 кандыдатаў да іх. Аднагалосна выбран Старшынёю т. КІКАЛІШВІЛІ. У Рэвізыйную Камісію выбраны 3 сябры і 2 кандыдаты да іх.

## Армянскае Т-ва Чырвонага Крыжу.

Цэнтральным Камітэтам Армянскага Чырвонага Крыжу на дапамогу ахвярам земляўздрыгу ў Ленінкане атрыманы наступныя сумы: ад Нацыянальных Т-ваў Чырвонага Крыжу і Чырвонага Поўмесяцу і Выканкому Саюзу—28.872 руб. 75 кап.; ад розных організацый СССР—17.320 руб. 50 кап.; ад заграннічных Чырвоных Крыжоў—12.750 руб. 95 кап., ад румынскіх армян—2000 руб., ад італьянскіх армян—2.200 руб. 50 кап., ад Аддзяленьняў Армянскага Чырвонага Крыжу—939 руб., ад Аддз. яго ў Амэрыцы—1.918 р. 47 кап. Акрамя таго, атрымана дапамога вопраткаю, прадуктамі, мэдыкамэнтамі і інш.



# Замежная інформацыя.

○ 4-га чэрвеня 1927 г. у Жэневе адбудзецца **Першая Міжнародная Конфэрэнцыя Міжнароднага Саюзу Дапамогі.** На гэту Конфэрэнцыю атрымаў запросіны цэлы рад Урадаў, а таксама Міжн. Кам Чырв. Кр. і Ліга Ч. Кр. гэтыя дзьве ўстановы з свайго боку зьвярнуліся да нацыянальных Таварыстваў Чырв. Крыжоў з прапановаю прыняць беспасярэдны ўдзел у фармаваньні ўрадавых дэлегацый на гэтую Конфэрэнцыю. Спадзяюцца, што ў гэтыя дэлегацыі ўвойдзе значная колькасьць прадстаўнікоў Чырв. Крыжоў, як устаноў, якія найбольш блізкі да справы дапамогі пры стыхійных здарэньнях.

○ Упраўленьне чыгунак Аргэнтыны збудавала санітарны вагон, які мусіць адыграць паважную ролю пры абслугоўваньні краю. У вагоне знаходзіцца ўсё патрэбнае для прывіўкі воспы, невялікая ляборатория, два аддзяленьні для пэрсоналу з дзьвума ложкамі, гарачая вада, добрая кухня, умывальніца і дэзынфэкцыйная камэра. Ёсьць думка збудаваць у гэтым вагоне радыё-тэлефон і кіно.

○ Румынскі Чырвоны Крыж выпусьціў юбілейны нумар свайго біюлетэню, які прысьвечаны пяцідзесяцігодзьдзю ад дню яго заснаваньня.

○ Чырвоны Крыж Нямеччыны абвесьціў, што ён будзе сьвяткаваць „Дзень Чырвонага Крыжу“ 12 чэрвеня б. г.

○ **Эстонскі Чырвоны Крыж** заснаваны ў 1919 г. На чале яго стаіць Праўленьне з 14 асоб, (два члены назначаюцца ўрадам). У складзе яго ёсьць наступныя аддзелы: санаторны, бальнічны, транспартны, матар'яльны, соцыяльнай дапамогі, дапамогі протэзамі, аддзел збораў і Чырвоны Крыж Моладзі. Цэнтральнае праўленьне знаходзіцца ў Таліне (Рэваль). На провінцыі працуе 14 мясцовых камітэтаў. 11 красавіка 1921 г. Эстонскі Чырв. Крыж быў прыняты ў члены Міжнароднага Камітэту. У часе вайны за незалежнасьць Эстонскі Чырвоны Крыж прапусьціў праз свае пункты і накарміў звыш 150.000 чал., збудаваў 14 санітарных вагонаў і г. д. У часе голаду ў Савецкім Саюзе Эстонскі Чырв. Крыж прыняў удзел у місіі Нансэна і паслаў у СССР 8.600 індывідуальных пакетаў. Маем 6 амбулаторый. Па ініцыятыве Лігі Чырвон. Кр. організаваны ў 1923 г. Чырв. Крыж Моладзі,

які налічвае да 11.000 сяброў і пры дапамозе Амэрыканскага Чырв. Крыжу выдае багата ілюстраваны журнал. Бюджэт Эстонскага Чырв. Крыжу выносіць 45 міл. эст. марак.

О Дзеля таго, што ў красавіку 1927 г. споўнілася 10 год ад моманту ўступленьня Амэрыкі ў сусьветную вайну—нумар „Весьніка" Амэрыканскага Чырвонага Крыжу за красавік прысьвечаны ўспамінам аб дзейнасьці Амэрыканскага Чырвонага Крыжу ў часе вайны. Падаюцца лічбы ахвяраваньняў Чырвонага Крыжу за гэты час:—першая кампанія па збору ахвяраваньняў у 1917 г. дала 114.023.640 дол., другая ў 1918 г.—169.575.598 дол. Болей 43.000.000 чал. прыняла ўдзел у гэтых ахвяраваньнях. Прыбытак Амэрыканскага Чырвонага Крыжу за 10 м-цаў вайны дасягнуў 394.000.000 дол. Было выдана на дзейнасьць Чырвонага Крыжу за межамі—154.000.000 дол., у Зл. Штатах Амэрыкі—119.000.000 дол. На організацыю Лігі Чырв. Крыжоў Амэрыканскі Чырвоны Крыж даў 2.500.000 дол.

О „Міжнародная Асоцыяцыя Аховы Дзяцей" у сваім Бюлетэні за сакавік зьмясьціла ліст прадстаўніка Чырв. Крыжоў і Чырв. Поўмесяцаў у Француі т. **Ракоўскай** адносна артыкулу „Аб становішчы дзяцей у Савецкай Расіі, які быў надрукаваны ў тым-жа Бюлетэні за студзень месяц і дае зусім неправідловы, тэндэнцыйны малюнак становішча дзяцей у СССР. Тав. **Ракоўская** адзначае, што прыведзеныя ў артыкуле лічбы адносяцца да 1920-1921 г. г. ё. да эпохі грамадзкай вайны і голаду, і падае іншыя лічбы, пазьнейшага часу, якія сьведчаць аб шпаркасьці росту насельніцтва ў Расіі, аб памяншэньні дзіцячай сьмяротнасьці, а таксама аб дасягненьнях ў галіне народнае аховы здароўя і аховы дзяцей.

---

# ДА ЎСІХ ДАКТАРОЎ БЕЛАРУСІ

## ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!

Уцягненьне працоўнага насельніцтва ў справу фізкультуры ідзе хуткімі крокамі, укараняючыся паступова ня толькі ў горадзе, дзе фізкультура мае ўжо сталую падставу, але і на вёсцы; паміж тым большая частка дактароў у горадзе і асабліва на вёсцы стаіць у баку ад гэтага руху, часам у зьвязку з адсутнасьцю інтарэсаў крытычных адносін, часам дзякуючы незнаёмству з пытаньнямі фызычнага выхаваньня.

Фізкультура, маючы ў аснове сацыяльна-гігіенічныя задачы, ня можа і не павінна прайсьці міма поля гледжаньня і дзейнасьці доктара. Правідловая пастаноўка фізычнае культуры патрабуе строга мэдычнага нагляду, правідловая пастаноўка фізвыхаваньня патрабуе, каб сыстэма была пабудавана на навукова-біолёгічных данных,—правідловая пастаноўка фізкультуры патрабуе навуковага базісу.

У першую чаргу ўвагу доктара павінна прыцягнуць фізычнае выхаваньне раньняга дзіцячага ўзросту і, як асяродак сацыяльна-гігіенычнага выхаваньня—школа. Пытаньне школьнай гігіены, рэжыму працы і адпачынку, харчаваньня, гімнастыкі і спорту—гэта вялізарнае поле дзейнасьці ня толькі для школьных, але і для ўсіх дактароў.

Далей, пытаньне аховы здароўя рабочага і селяніна, выходзячага не ўмацаваным на шлях фізычнае працы, пытаньне яго побыту, умовы яго працы, пытаньне гімнастыкі і спорту, як мэтаду актыўнага ўплыву на арганізм і мэтаду барацьбы з прафэсыйнымі хваробамі,—усе гэтыя пытаньні грунтоўныя пытаньні аздараўленьня працоўных—рабочага і сялянскага насельніцтва.

Другія моманты фізічнага выхаваньня—дапрызыўная падрыхтоўка, як папярэдная ступень будучага вайсковага жыцьця—таксама ня могуць быць выключаны з поля гледжаньня доктара гарадзкога і вайсковага ў асаблівасьці, дзе часам усе заняткі праводзяцца бяз усялякага мэдычнага нагляду і ў кепскіх санітарных умовах.

Фізпрактываньні, спорт і гімнастыка маюць у агульнай сыстэме фізвыхаваньня працоўных ня толькі сацыяльна-гігіенічнае значэньне, але і прыкладное: выпрацоўка трудавых звычаяў і шэрагу псіхо-фізіолёгічных якасьцяй, неабходны для абароны Савецкага Саюзу.

Усе паказаныя моманты патрабуюць ад усёй мэдычнай масы вядомай перамены погляду, іншага падыходу, большай зацікаўленасьці і ўвагі да пытаньняў фізвыхаваньня.

Першая Ўсебеларуская Навукова-Мэдычная Канфэрэнцыя па ФК зьвяртаецца да ўсіх дактароў Беларусі як гораду, таксама і вёскі з прызывам прыраду, належны ўдзел ува ўсіх пытаньнях фізычнага выхаваньня, аддаўшы гэтаму пытаньню максымум увагі, актыўна ўдзельнічаючы ў працы Саветаў Фізкультуры, у арганізацыі дасьледчай працы, у правядзеньні мэдычнага нагляду, у арганізацыі навуковай консультацыі і г. д.

15-ая Партыйная Канфэрэнцыя па пытаньню мэдычнага кантролю па фізкультуры сказала наступнае: „Пытаньні наладжваньня плянамернага мэдычнага кантролю і пропаганды элемэнтарных ведаў і звычаяў, самакантролю,—застаюцца аднэй з самых сур'ёзных задач без разьвязаньня якой арганізацыя фізкультуры не апраўдае свайго назначэньня".

Толькі дружнаю працаю ўсёй мэдычнай масы магчыма будзе правідловая навукова-абаснованая пастаноўка справы фізычнага выхаваньня, гэтак неабходнага ў сучасных умовах клясавай барацьбы.

*І-я Ўсебеларуская Канфэрэнцыя па Мэдычнаму кантролю над займаючыміся фізкультураю і Ўрачэбна-Тэхнічных Камітэтаў С. Ф. К.*

10-га мая 1927 г.
г. Менск.

## ПАЧАТАК.

Калі некалькі месяцаў таму назад мы казалі аб неабходнасьці ўцягненьня фізкультурнікаў у шэрагі працы Чырвонага Крыжу, дык зараз мы маем ужо цэлы шэраг дасягненьняў у гэтым напрамку. Ускалыхнуліся некаторыя акругі.

На мэдычную канфэрэнцыю прыехаў з Рэчыцы Старшыня Вучтэхкому АСФК і на яго вопратцы бялее значок Чырвонага Крыжу. Пытаеш яго:

Ці вы даўно сябрам Чырвонага Крыжу?

— Не, я першы надзеў значок, зараз усё больш і больш іх сустракаеш сярод фізкультурнікаў.

Гэтаму таварышу трэба верыць.

Вось у Полацку. Большая частка фізкультурнікаў, а часам і цэлыя гурткі ўваходзяць у шэрагі Чырвонага Крыжу. Не праходзіць ніводнага сходу фізкультурнікаў, на якім бы не казалі аб Чырвоным Крыжу. З фізкультурнікаў ужо арганізаваны Гурткі Першай Дапамогі. Арганізацыя адчувае, што водная станцыя, стадзіён,—будуецца толькі дзякуючы падтрыманьню Чырвонага Крыжу.

Але ўсё гэта пачатак. У многіх акругах сустракаецца аналёгічнае, але ўся праца яшчэ ня мае характару, штодзённага ўдзелу і сувязі з Чырвоным Крыжам. Задача ўцягненьня фізкультурнікаў у сябры Чырвонага Крыжу яшчэ нэ сашла з парадку дню. З другога боку няма яшчэ сталай працы нашых камісій садзейнічаньня фізкультурнаму і піонэрскаму руху. Многія акругі яшчэ гэткіх камісій ня маюць, а маючыяся працуюць слаба.

На канфэрэнцыі па Мэдычнаму Кантролю выступіў прадстаўнік Чырвонага Крыжу т. А. Цьвікевіч. Яго прамова зводзілася к таму, што органічнай сувязі з СФК яшчэ ня маецца, што дактары ў першую чаргу павінны дапамагчы ў гэтай справе. Трэба думаць, што выступіўшы пасьля тав. Цьвікевіча старшыня Канфэрэнцыі адказаў за ўсю Канфэрэнцыю:

„Гэта сувязь будзе".

Зараз перад фізкультурнай арганізацыяй трэ' высунуць адну невялікую задачу: уцягнуць у шэрагі Чырвонага Крыжу масу фізкультурнікаў, растлумачыць задачы гэтага ўступленьня, пачаць працу па сапраўднаму садзейнічаньню ФК руху з боку Чырвонагага Крыжу.

*Б-кі.*

## МЕНСК.

### Усебеларуская Канфэрэнцыя па мэдычнаму кантролю.

О 7-га траўня, Вышэйшым Саветам Фізычнае Культуры Беларусі і Аздараўдзет'ам НКАЗБ была склікана І Усебеларуская Канфэрэрцыя па мэдычнаму кантролю над фізпрактыкаваньнямі ў рабочых гуртках і школах.

Скліканьне гэтае Конфэрэнцыі было магчымым дзякуючы грашоваму падтрыманьню з боку ЦК Чырвонага Крыжу. У час Конфэрэнцыі была атрымана прывітальная тэлеграма ад

знаходзячагася зараз за межамі БССР Старшыні ВСФКБ, і Старшыні Чырвонага Крыжу—т. Барсукова. На конфэрэнцыі выступіў з прывітаньнем ад ЦК Беларускага Чырвонага Крыжу т. Цьвікевіч, які ў сваёй прамове адзначыў тую вялікую зацікаўленасьць, з якою Чырвоны Крыж адносіцца да пытаньняў фізкультуры.

На Конфэрэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі ад усіх 12-ці акругаў Беларусі, прычым, у іх ліку былі з аднаго боку дактары, працуючыя ў антропамэтрычных габінэтах, з другога боку—інструктары фізкультуры. Усяго прадстаўнікоў было 35. Конфэрэнцыя працягвалася 3 дні, былі заслуханы даклады: аб ролі доктара ў фізычнай культуры, аб мэдычным кантролі ў школах, аб працы антропамэтрычнага габінэту, аб мэдычна-дасьледчай працы ў галіне фізкультуры, аб летнім усебеларускім сьвяце, працы вясковага гуртку і задачах доктара на раёне, аб пытаньнях самакантролю.

Жвавыя спрэчкі выклікаў даклад аб ролі доктара ў фізычнай культуры, у якім асабліва высоўвалася нядосыцьная кваліфікацыя дактароў у пытаньнях фізкультуры, нядосыцьная ўвага ворганаў асьветы пытаньням фізвыхаваньня ў школах, паказвалася на сацыяльна-гігіенічную і эўгенічную значнасьць фізвыхаваньня, якая набывае асабліва паважны і актуальны сэнс у нас, у Савецкім Саюзе, знаходзячымся ў капіталістычным абкружэньні.

Даклады Менску і Гомеля аб фізвыхаваньні ў школе былі дэтальна абмеркаваны. Было паказана на празьмерную нагрузку дактароў АЗД, як лікам устаноў, так і колькасьцю вучняў (больш 10 устаноў і больш 2000 вучняў, у сярэднім на доктара АЗД у Беларусі акрамя Гомельшчыны), што зьяўляецца адным з галоўных тармазаў працы доктара АЗД, гаварылася аб нядосыцьнай падрыхтаванасьці дактароў АЗД., аб цяжкіх анці-санітарных варунках нашай школы, аб нявысокай кваліфікацыі і нядосыцьнай колькасьці фізінструктароў, аб адсутнасьці ўвязкі ў працы доктара АЗД і фізінструктара, аб тым, што фізінструктары і дактары АЗД ня досыць удзельнічаюць у агульным жыцьці школы (пэд. рада і г. д.), што бязумоўна мае ўплыў і на адносіны да фізпрактыкаваньняў і на ўсю пастаноўку фізвыхаваньня ў школе. Адсутнасьць мэдычных габінэтаў ў школах зьяўляецца вялікаю перашкодаю ў працы. Было пастаўлена і разьвязана пытаньне аб арганізацыі фізбюро пры АКРАНА ў сэнсе пажаданьня ў адносінах абавязковага існаваньня гэткіх і абавязковага ўвядзеньня ў іх склад школьных дактароў.

Даклад аб працы антропомэтрычнагагабінэту выклікаў жывы абмен думкамі. У дакладзе падкрэсьлівалася, што мэтодыка антропомэтрычных зьмярэньняў і функцыянальных спробаў лёгкіх і сардэчна-сасудзістай сыстэмы павінна быць адзіная, што ў пэрспэктыве габінэт па мэдычнаму кантролю акрамя антропомэтычнага і інструмэнтарыя павінны мець фізыолёгічную і псыхо-тэхнічную ляршраторыю.

Паказвалася на неабходнасьць для дактароў вывучэньня карыстацца мэтадамі вар'яцыйнай статыстыкі пры апрацоўцы матар'ялаў. Гэты спосаб дае магчымасьць на фоне вар'яцыйна-біолёгічнага профілю досьледванага колектыву пабудаваць крывую фізразьвіцьця кожнага фізкультурніка дадзенага калектыву, параўнаньне не індывідуальных крывых вынасімых да і пасьля сталага часу заняткаў фізпрактыкаваньнямі дае магчымасьць меркаваць аб меўшых мейсца зьменах у фізразьвіцьці дадзенага індывідууму.

Жыва абгаварвалася таксама пытаньне самакантролю, які зьяўляецца ў сучасны момант актуальнейшым у фізкультуры.

Конфэрэнцыя скончылася 9 мая ўвечары былі прыняты рэзолюцыі па ўсім дакладам.

Конфэрэнцыя ўхваліла зьвярнуцца з адчыненым лістом да дактароў Беларусі, у якім дактары заклікаюцца да большай зацікаўленасьці да фізычнага выхаваньня і падкрэсьліваецца таксама вялікая карысьць у гэтым сацыяльна-гігіенічным і эўгенічным фактары для працоўных Беларусі.

**Д-р. Герман.**

---

○ 20-га траўня ў Менску адчыніліся 2-х месячныя курсы памоцнікаў інструктароў. Курсы разьлічаны на 35 асоб, арганізатарам зьяўляецца К. А. ЦСПСБ. Курсы будуць складацца з рабочых фабрык, заводаў і савецкіх гаспадарак з усіх акругаў Беларусі.

○ У пачатку чэрвеня ў Менск прыяжджае з Лейпцыгу (Нямеччына) зборная футбольная каманда Лейп-

цыгскага рабоча-спартыўнага саюзу для сустрэчы з зборнымі камандамі асобных гарадоў Беларусі, а таксама з Беларускаю зборнаю футбольнаю камандаю.

○ У Менску праводзіцца даабсталяваньне пляцоўкі саду „Профінтэрн“. Будзе зроблена наступнае:

1) Гаравая дарожка, 2) Соляры, 3) Гімнастычныя гарадкі і 4) Баскэтбольныя і футбольныя пляцы.

○ У Менску будуецца стралковы цір у гарадзкім садзе, а таксама плавальная станцыя (басэйн).

# ФІЗКУЛЬТУРА

## РЭЧЫЦА.

○ У шэрагі Чырвонага Крыжу ўступілі яшчэ 20 фізкультурнікаў.

○ На курсы хуткай дапамогі ўцягваюцца сябры фізкультгурткоў.

○ Пры спортклюбе арганізоўваецца ячэйка Чырвонага Крыжу і каманда хуткай дапамогі на пляцоўцы і стадзіёне.

## БАБРУЙСК.

○ У гуртках фізкультуры налічваецца да 25 прац. фізкультурнікаў.

○ Устаноўлена цесная сувязь з Акруговым Камітэтам Чырвонага Крыжу выпрацаваны плян далейшай працы, вызначаны прадстаўнік.

○ Улетку намячаецца пабудоўка воднай станцыі, у якой прыме ўдзел Чырвоны Крыж. На гэтай станцыі будуць арганізованы гурткі першай дапамогі на вадах утапаюшчым.

## БАРЫСАЎ.

○ Асабліва шмат фізкультурнікаў уступілі ў шэрагі Чырвонага Крыжу ў Лепельскім і Крупскім раёне.

○ Дасланы ліст ад АСФК усім РСФК аб працы па ўцягненьню фізкультурнікаў у сябры Чырвонага Крыжу.

○ ЦК Чырвонага Крыжу адпусьціў 700 рублёў на пабудову залі фізкультуры.

# Бібліографія.

**М. І. Касьпяровіч. Віцебскі краёвы слоўнік.** Матар'ялы. Пад рэд. М. Я. Байкова і Б. І. Эпімаха-Шыпілы. Віцебск 1926. 168×255 мм. XXII 192 ст.

Асаблівасьцю слоўніка зьяўляецца вялікая колькасьць народных слоў з батанікі, зоолёгіі, народнай мэдыцыны і наогул прыродазнаўства. Да ўсіх іх дадзены дакладныя лацінскія азначэньні. Прымаючы пад увагу, што народ не сыстэматык, у шмат якіх мясцох сяляне называюць адным словам, напр., адну і тую расьліну, але розных відаў, або наадварот—рознымі словамі адзін від. Пры кожным слове паказана мясцовасьць, адкуль слова ўзята, што цалкам ухіляе магчымасьць памылак у азначэньні мясцовых хвароб, расьлін, жывёл і г. д. іншымі дасьледчыкамі, калі яны ведаюць лацінскія назвы. Калі-б укладальнік браў найбольш распаўсюджаныя назвы, то ў яго напр., гарэхаўка была-б аднесена да Garrubes glandarius, а не да Nucifrax caryocatactes, жаламузьдзіна да Lonicera xylosteum, а не да Juniperus kommunis, што часьцей за ўсё азначае ядловец і г. д.

Выявіць найбольш распаўсюджаныя словы вельмі цяжка і ўкладальнік добра зрабіў, што абмежаваў сваю працу пэўным часам—2 гадамі, а таксама заданьнем занатаваць мову тых ці іншых мясцовасьцяй.

Даны слоўнік надзвычайна карысны пры вывучэньні народнай мэдыцыны, яе гісторыі, спробах дайсьці да блытанага сэнсу розных замоў, прыметаў і г. д.—побач з сваім навуковым значэньнем у галіне лексыколёгічнай, этнографічна-дыялектолёгічнай, гісторыі мовы і інш.

**В. А.**

# Паштовая скрынка

**Н. Раханскаму.** Ваш артыкул—„Сялянства і Чырвоны Крыж" вельмі цікавы па сваёй тэме, але апрацавалі вы яго занадта агульна. Чакаем ад вас матар'ялаў больш канкрэтных, блізкіх да вашае працы ў Чэрыкаўскім раёне. Найбольш нас цікавяць варункі і формы прапаганды Чырвонага Крыжу сярод сялянства, дасягненьні і недахопы вашае організацыі і наогул тое, што робіцца на мейсцы. Ня думайце, што малая справа—ня важная. Наадварот—малая, але рэальная праца--аснова ўсяго.

**Падабеду, Буману, Кліонскаму.** Дазнаўшыся аб вашай энэргічнай дзейнасьці па Чырвонаму Крыжу, чакаем ад вас матар'ялу, аб тым, як праходзіць праца ў вашых раёнах. Ці маеце сувязь з мясцовымі краяведамі, фізкультурнікамі і наогул з актыўнай моладзьдзю. Пішэце проста, коратка,—а калі можаце, дык вышліце фатаграфію цікаўных установаў, ці груп (лазьня, студня, яські, раёны сход і г. д.).

**Д-ру А. С. Гінзбургу** (Менск). Вашая заметка занадта агульнага характару, ды да таго-ж нічога новага не дае. Знайдзіце больш прынцыповую тэму.

**Ячэйцы пры Астр.-Гарад. Санаторыі.** Як праходзіць справа з дзіцячай пляцоўкай і бязплатнымі мейсцамі для сялян? Пакуль што—усё яшчэ абяцанкі, добрыя пляны, а калі будзе зьдзейсьнена—няма ведама. Адкажэце.

---